

Беларускія гімназісты➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Карцінкі з глыбінкі➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3125) Год LXI

Беластак, 3 красавіка 2016 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Дзень Незалежнасці ў Бельскім белліцэі



■ Белліцэісткі другога класа побач плаката «Беларусь у маіх вачах»

**У гэтым годзе Дзень Волі, які адзначаецца 25 сакавіка, выпаў якраз у час велікоднага перапынку ў працы школ. У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім святкаванні Дня Незалежнасці адбыліся 21 сакавіка, калі ў іншых бельскіх школах моладзь адзначала першы дзень вясны. У школьным мерапрыемстве прынялі ўдзел вучні ўсіх класаў і настаўнікі. Першакласнікам быў арганізаваны «Беларускі турнір», другакласнікі выступілі з прэзентацыямі «Мая малая айчына», а белліцэісты з трэціх класаў паглядзелі фільм Юрыя Каліны «Сярожа», зняты для тэлеканала «Белсат».**

— 25 Сакавіка беларусы рашыліся сказаць свету, што хочуць быць народам. Мы павінны ганарыцца сваёй гісторыяй і памятаць пра сваё мінулае. Сёння адзначаецца першы дзень вясны, а для беларусаў вясной было абвяшчэнне незалежнасці Беларусі і сёння мы адзначаем угодкі Дня Волі ў нашай школе. Я захоплены выступленнямі нашых ліцэістаў з першых і другіх класаў, якія салідна падрыхтаваліся да турніру і прэзентацый. Удалося ім арыгінальна і цікава запрэзентавацца па-беларуску і ўмела спалучыць беларускую традыцыю і сучаснасць, — сказаў дырэктар белліцэя **Андрэй Сцепанюк**.

На калідорах і ў спартыўнай зале красаваліся плакаты на тэму «Беларусь у маіх вачах», выкананыя ў мінулых гадах вучнямі першых класаў у рамках «Беларускага турніру». Плакаты змяшчалі выявы бел-чырвона-белых сцягоў, герба «Пагоня» і вучнёўскія ўяўленні пра Рэспубліку Беларусь. Святкаванне Дня Волі пачалося з прэзентацый на тэму «Мая малая айчына», з якімі выступілі вучні трох другіх класаў. Пры дапамозе мультымедыйнай тэхнікі ліцэісты цікава распавялі пра гісторыю і цяперашняе жыццё ў Бельску-Падляшскім і навакольных вёсках, адкуль яны самі выводзяцца. Моцна захапілі публіку вучні класа «ІІ Б», якія паказалі самыя вялікія каштоўнасці сваёй малой айчыны на практыцы. Станцавалі яны славуты беларускі танец „Лявоніха", праспявалі дзве песні, больш даўнюю і сучасную, і наладзілі прэзентацыю моды, у якой традыцыйныя народныя матывы спалучылі з сучаснасцю.

— Я прыйшла на святкаванне ў беларускай кашулі з традыцыйнымі ўзорамі. Такую вопратку мы выкарыстоўвалі падчас прэзентацыі моды. Цікавым атрымаўся танец «Лявоніха» ў выкананні сяброў. Развучылі яны танец пад кірункам спадарыні Святланы, якая прыязджала да нас у Бельск з Беларусі. Турнірны спосаб святкавання Дня Незалежнасці Беларусі мне падабаецца. Мы слаўна гуляем. Традыцыі нашага рэгіёна гэта частка агульнабеларускай культуры. Мы выступаем па-беларуску і ўдасканальваем валоданне роднай мовай. Мы, беларусы, павінны памятаць аб нашай гісторыі і славутых яе перыядах і тая варта адзначаць Дзень Незалежнасці, — сказала **Дар'я Маліш** з «ІІ Б» класа.

Другакласнікі падрыхтавалі таксама мясцовыя посныя стравы, якімі пачаставалі конкурсную камісію і настаўнікаў.

— Мы падрыхтавалі квас, бульбяную кішку, традыцыйны вясковы хлеб і піражкі з капустай. Мы стараемся як мага найбольш цікава запрэзентаваць нашы традыцыі і культуру. Адчуваем сувязь з беларускасцю, а прэзентацыя нашай малой айчыны і турнір першакласнікаў толькі ўзмацняюць



нашу беларускасць, — сказалі вучаніцы «ІІ Б» класа **Караліна Юрчук**, **Юліта Дзмітрук** і **Вольга Матысяк**.

— Мы — беларусы. Сённяшняе Свята Незалежнасці Беларусі нам важнае, — заявілі **Наталля Бабжыцкая** і **Дар'я Іванюк** з «ІІ А» класа.

— Вучні другіх класаў раней прэзентавалі беларускую кухню. У мінулым годзе мы адышлі ад гэтай формулы і нашы другакласнікі ў сакавіку ездзілі ў адукацыйны асяродак «Шчыты». Сёлета запрапанавалі мы вучням другіх класаў падрыхтаваць прэзентацыі аб сваім рэгіёне, што вучням атрымалася. На ўроках вучні знаёмяцца з гісторыяй абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1918 годзе. Падчас святкавання ведаюць яны ўжо пра гэтае свята. Сённяшняя гульня гэта добры спосаб адзначыць важную гістарычную падзею, — сказаў настаўнік гісторыі **Уладзімір Вавульскі**.

У «Беларускім турніры» прынялі ўдзел вучні трох першых класаў. Вучні прэзентавалі свой клас, спявалі па-беларуску і распавядалі пра плакаты на тэму «Беларусь у маіх вачах», на якіх часта паяўляліся выявы бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня». Белліцэісты бачаць будучыню Беларусі станоўча, аб чым сведчаць радасныя матывы на плакатах.

— Я пад вялікім уражаннем ад выступленняў вучняў першых і другіх класаў. Мы на ўроках беларускай мовы гаворым пра нашу гісторыю. Вучні знаёмяцца з падзеямі амаль стогадовай даўнасці, калі абвяшчалася незалежнасць Беларусі. Сёння нашы ліцэісты стараліся выступіць як найлепш па-беларуску. Сярод першакласнікаў многа ёсць асоб, якія беларускай мове сталі вучыцца толькі паўгода назад, — сказала настаўніца беларускай мовы **Яўгенія Таранта**.

Цікавымі былі прэзентацыі беларускіх казак — пра спячую прынцэсу, рабую курачку і іншых жывёл. Перш за ўсё стараліся, каб іх выступы былі смешнымі, што ім удалося.

— Святкаванне Дня Волі патрэбнае, каб мы памяталі пра гісторыю Беларусі. У ліцэі мы святкуем у форме прэзентацый і турніру. Прэзентацыі малой айчыны і «Беларускі турнір» цікавыя, вучні слаўна гуляюць, размаўляючы па-беларуску. Я была членам журы турніру першакласнікаў і магу сказаць, што выступленні нашых малодшых сяброў былі мне цікавымі, — сказала старшыня школьнага самаўрада **Дамініка Навіцкая** з «ІІ Д» класа.

Удакладніла яна, што пасля ацэнкі прэзентацый вучняў другіх класаў, камісія першыя месцы прызначыла «ІІ Б» і «ІІ Ц» класам, а другія месцы занялі вучні «ІІ Д» і «ІІ А» класаў. Падчас «Беларускага турніру» першакласнікаў першае месца занялі белліцэісты класа «І А, Ц», які дзейнічае ў школе як адзін клас, другое месца заняў клас «І Д», а трэцяе — «І Б».

— Калі мы вучыліся ў суседняй «тройцы», настаўнікі беларускай мовы расказвалі нам пра Дзень Незалежнасці і падзеі, якія давялі да стварэння незалежнай дзяржавы Беларусь. Там з настаўнікамі беларускай мовы арганізавалі мы ўрачыстыя лінейкі, падчас якіх вучні дэкламавалі патрыятычныя вершы, спявалі патрыятычныя песні і расказвалі пра абвяшчэнне незалежнай дзяржавы Беларусь. У ліцэі, дзякуючы песням, прадстаўленням і прэзентацыям з дозай гумару, больш свабодная атмасфера святкавання Дня Незалежнасці і гэта нам падабаецца, — сказалі Наталля, Магда і Іаанна з «І Д» класа. Вікторыя з «І Б» класа і Сара з «І А, Ц» класа таксама былі рады выступам і добрай гульні.

— Наш клас падрыхтаваў плакат, на якім двое маладых людзей, трымаючыся за рукі, нясуць два сцягі: гістарычны — бел-чырвона-белы і афіцыйны — сённяшняй Рэспублікі Беларусь. Мы адзначаем угодкі абвяшчэння незалежнай Беларусі і гэтым плакатам выяўляем надзею на добрую будучыню Беларусі, — сказала **Магдалена Маліш** з «І Б» класа.

Белліцэісты трэціх класаў і частка настаўнікаў паглядзелі фільм **Юрыя Каліны** «Сярожа», спаткаліся з рэжысёрам дакументальнай стужкі і з **Яраславам Іванюком**, журналістам, які ў фільме выступіў у ролі суразмоўніка галоўнага героя — Сяргея Нічыпарука. Дырэктар Андрэй Сцепанюк прадставіў абодвух гасцей як выпускнікоў Бельскага белліцэя. На прэзентацыі фільма прысутнічаў таксама беларускі пісьменнік **Алесь Аркуш**, які 21 сакавіка наведаў Бельскі белліцэй.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



# Дзе і калі



У тое, што чарговы тэракт рана ці позна грымне ў Еўропе, здаецца ўжо пасля парыжскай трагедыі больш не сумняваўся ніхто. Пытанне не стаяла ці адбудзецца ён ці не. Пытанне было толькі ў тым, дзе і калі гэта здарыцца. Не хацелі ў гэта верыць хіба толькі тыя, што аніяк не маглі прызнаць сваіх асабістых памылак у правядзенні міграцыйнай палітыкі. Але, як казаў некалі Станіслаў Ежы Лец, хто жыве ў свеце ілюзій, той заўсёды атрымлівае ўдар ад рэальнасці.

Удар аказаўся зноў у тым месцы, дзе яго не чакалі. Яшчэ зусім нядаўна з Бруселя гучаў моцны і бескампрамісны голас, які жорстка асуджаў тых чальцоў Еўрасаюза, якія не падтрымлівалі агульнай міграцыйнай палітыкі. Цяпер у Брuselі мусілі аб'явіць жалобу па дзясятках загінуўшых і сотнях параненых. Чыноўнікі і палітыкі нарэшце загаварылі пра недапрацоўкі ў міграцыйнай палітыцы Еўрасаюза і ўжо адкрыта заяўляюць, што нават пры тэрміновым прыняцці неабходных мер, па-ранейшаму невядома якіх, еўрапейцам яшчэ доўгі час прыйдзецца жыць са штодзённай тэрарыстычнай пагрозай. Калі нават там, дзе працуюць офісы Еўрапарламента і Рады Еўропы, якія знаходзяцца пад узмоцненай аховай, адбываюцца такія трагедыі, то гэта паказвае, што еўрапейцы больш нідзе на гэтай планеце не могуць адчуваць сябе бяспечна.

А ў самой Еўропе сёння ўжо загінуць ад бомбы шанцаў, здаецца, не менш, чым у тых краінах, адкуль у Еўропу працягваюць прыязджаць уцекачы. Спецслужбы і паліцыя не могуць зрабіць нічога, каб прадухіліць тэрарыстычную пагрозу, якая ўвесь час толькі ўзрастае. Іх не рыхтавалі да гэтага. Іх вучылі не крыўдзіць імігрантаў і старацца ўнікнуць у іх нялёгкую сітуацыю. А вось якім еўрапейскім каштоўнасцям іх навучыць, каб тыя змаглі хутчэй уліцца ў еўрапейскае грамадства, ніхто над тым не працаваў.

Толькі зараз усе нечакана для сябе нібыта ўбачылі, што імігранты не ўпісваюцца ў еўрапейскую культуру. Нібыта раней еўрапейскія чыноўнікі не ведалі пра цэлыя эмігранцкія раёны, куды не толькі карэнны еўрапеец зайсці не можа, але нават і паліцыянт без рызыкі для жыцця там не ў стане паказацца. Ну, а калі гаварыць пра культуру, то ці кожны адукаваны еўрапеец можа растлумачыць, якая культура дамінуе сёння ў Еўропе? Якую культуру еўрапейцы прапаноўваюць мігрантам? І гэта так, каб тыя змаглі ацаніць яе веліч і зразумець, што яны патрапілі ў асяродак вялікай цывілізацыі. Дзе пачытаць пра базавыя пункты гэтай цывілізацыйнай дактрыны? Ясна, што ёсць напісаныя цэлыя тамы, якіх ніхто не чытае. Але вось так каб кораценька... Па пунктах 1, 2, 3... Каб хутка і зразумела.

Ці хтосьці з прыхільнікаў бескантрольнай міграцыі можа растлумачыць прававерному мусульманіну, чаму мужчыну ажаніцца з дзвюма жанчынамі нельга, а з другім мужчынам можна? Ці можа дэзерціру, які пакінуў паміраць у пекле вайны сваіх суайчыннікаў, зможа растлумачыць, чаму нельга гвалтаваць нямецкіх жанчын? Ці хтосьці можа прадставіць эмігранту больш-менш ясны праект будучыні Еўропы? Калі так, то хай прадставіць яго спачатку самім еўрапейцам, бо багата маладых еўрапейцаў, якія так і не змаглі разгледзець вобразу будучага ў сябе на радзіме, едуць шукаць яго ў іншыя асяроддзі. І там ужо са зброяй у руках выступаюць супраць сваіх былых суайчыннікаў.

Можа акурат праблема Еўропы ў тым, што самі еўрапейцы пачалі занадта хутка забывацца пра свае традыцыйныя еўрапейскія каштоўнасці. Ну, то каго яны могуць прывабіць, тыя каштоўнасці, якіх імігрантаў могуць зацікавіць і заахвоціць да еўрапейскага ладу жыцця, калі самі еўрапейцы іх зракаюцца. Хаваюцца за словы кшталту мультыкультуралізм. Але ж мультыкультуралізм прадугледжвае існаванне розных культур побач з традыцыйнай еўрапейскай, а не адмову ад сваёй культуры на карысць той, пра якую еўрапейцы, як аказалася, маюць толькі павярхоўныя ўяўленні.

І зараз трэба сур'ёзна разважаць і шукаць шляхі выхаду. Толькі вось губляць час на пустыя размовы, асабліва еўрапейскім палітыкам, ужо недапушчальна, бо жыхароў Еўропы зараз увесь час не пакідае думка: дзе і калі.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Абяцанне



Ці маладым патрэбныя старыя? На думку многіх з іх, старэчы, леапёрды, склеротыкі да нічога непрыдатныя. Бо або надакучваюць, патрабуюць, настаўляюць, або пачынаюць адзін з адным ідэалагічную вайну — адным словам руйнуюць свет. Уявім такую гіпатэтычную сітуацыю, што ў Польшчы з дня ў дзень паміраюць усе, якім больш за 30 гадоў (вышэй за гэты ўзрост фармулююцца погляды, даспяваюць жыццёвыя стратэгіі, а за імі палітычныя выбары і вынікаючыя з іх падзелы). Дык няхай узроставыя падзелы нарэшце прападуць! І што адбываецца? У адно імгненне выжыўшую кампанію ахоплівае дабрашчасны спакой. Спыняюцца ідэалагічныя спрэчкі. Гэта стварае якасна новую цывілізацыю... маляўнічых матылькоў, якія прытрымліваюцца своеасаблівай філасофіі «лаві момант». Замест безвынікoвых сварак маладыя выбіраюць жыццё «тут і цяпер». Яны аддаюць перавагу тусоўкам, сексу без абавязацельстваў, бестурботным падарожжам, гульням з электроннымі цацкамі, проста выкарыстоўваць жыццё, замест задавацца пытаннем, што будзе заўтра. Таму што будучыні для іх няма. Няма яшчэ: ні хвароб, ні дзяцей, ні бацькоў, закарэлых у сваіх меркаваннях і загартаваных у сваіх рацыях, аб якіх вам трэба клапаціцца, і ў той жа час з імі спрачацца, і даказваць, што памыляюцца, не разумеюць гэтага свету.

Іншая справа, што кожны — няхай гэта будзе малады або стары — з'яўляецца палітычным бытам, уцягнутым у палітычныя працэсы. Асцярожна кажучы, немагчыма быць у адзіноце ў кучы. А кучай кіруе палітыка. Нават кучай... маладых. Нават адмаўляючыся ад яе, напрыклад, адракаючыся ад выбарчага права, вызначаеш сваёй пасіўнасцю палітычныя працэсы, якія, у сваю чаргу, уплываюць на жыццё кожнай, каржнюткай адзінкі. Ясна гэта паказалі апошнія парламенцкія выбары, калі 30% выбаршчыкаў навязала ідэалагічны дыктат прадстаўнічай для сваіх поглядаў партыі ўсяму грамадству. Нават нягледзячы на той факт, што амаль 30% выбаршчыкаў было гэтай партыі катэгарычна супраць, а чарговыя 30% тых, хто сцвярджаў, што ім на палітыку напляваць, цяпер пастаянна плююцца. Ад палітыкі немагчыма ўцячы.

Кажуць, маладыя, як правіла, апалітычныя. Толькі апалітычныя больш направа, ці налева? Як паказалі нядаўнія сацыялагічныя даследаванні, маладыя людзі ў Польшчы моцна адскочылі направа. Цікава, што гэтая тэндэнцыя ахоплівае ўзроставую групу, якая гіпатэтычна павінна закласці асновы новай цывілізацыі, значыць, людзей ва ўзросце ад 17 да 29 гадоў. Гэтыя самыя даследаванні паказваюць што, у параўнанні з групай людзей ва ўзросце 30-49 гадоў, першая група лепш адукаваная, больш знаёмая са светам, лепш абсарбуе новыя тэхналогіі і адаптуецца да змен у ладзе жыцця. Такім чынам, можна было б падумаць, што свет, які яны будуць ствараць, пазбаўлены баласту закамплексаваных падагрыкаў, дасягне ўзровень утапічнай Аркадыі. Вядома, Аркадыі на іх меру, якую вызначае бестурботнасць узросту, адсутнасць рэфлексіі, некрытычнае падпарадкаванне модзе, схільнасць да бравады і экстрэмальных адносін. Але! Аказваецца, што тая самая, цяпер правабаковая моладзь у сваіх уяўленнях настолькі непрадказальная, як капрызная і няўстойлівая. Сёння схільная да правага бачання свету, а што будзе заўтра, паслязаўтра? Можа зробіць на ёй ураджэнне гендарная ідэалогія, можа нацыянальны фашызм... Мабыць, палічыць сваім ідалам Чэ Гевару або Пол Пота... Дарэчы, адзін малады і вельмі адукаваны чалавек (два факультэты) са светапоглядам па сутнасці нацыяналістычна правым, не вельмі ведаў, хто гэтыя гістарычныя ўжо постаці. „Гэта нейкія рамантыкі?" — спытаў ён даволі сур'ёзна. Я, стары грыб, растлумачыў яму, кім былі тыя прасякнутыя юнацкай ідэалогіяй джэнтльмены. Як жа здзівіўся мой суразмоўца, што першы, сацыяпатычны рэвалюцыянер стаў іконай культурнага бунту маладых амерыканцаў у 1960-1970-х гадах, а другі, выводзіўшы свой ідэалізм з падобнага культавага стаўлення бунту, адказвае ў тыя ж гады за забойства мільёнаў суайчыннікаў у Камбоджы. „Але мы не бунтуемся", — сціпла адказаў малады чалавек. І ў мяне рукі апусціліся. Але ненадоўга. Я паабяцаў сабе жыць як мага даўжэй. Не пакіну ж маладых самім сабе. Ну, не магу.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Культурная палітыка

Вядзецца праца па распрацоўцы праекта «Праграмы палітыкі ў галіне культуры Беластока на 2016-2020 гады плюс». Некалькі гадоў таму я таксама ў «Ніве» заклікаў да распрацоўкі такой праграмы, спасылаючыся на аналагічны люблінскі дакумент, які забяспечвае тамашняй культуры годнае месца і падкрэслівае важную ролю ў гэтым аспекце мясцовай культуры нацыянальных і этнічных меншасцей. У сувязі з распрацоўкай беластоцкай праграмы ў апошні час вядуцца кансультацыі з рознымі асяроддзямі. Як адзначыў беластоцкі віцэ-прэзідэнт па справах культуры Рафал Рудніцкі, мэта кансультацый — вызначэнне канцэпцыі і місіі культурнага развіцця Беластока і акрэсленне шэрагу стратэгічных прыярытэтаў у гэтай галіне. Адпраўной кропкай для абмеркавання з'яўляецца «Стратэгія развіцця горада Беластока на 2011-2020 гады плюс», «Праграма па прадухіленні расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі неталерантнасці на 2014-2017 гады „Беласток для талерантнасці"», даследаванні Фонду лабараторных даследаванняў і сацыяльных дзеянняў «Soclab» і яго рэкамендацыі, змешчаныя ў рапарце «Прагулка па пракладзеных сцежках».

У самой стратэгіі падыход да прыярытэтаў датычных культуры вельмі павярхоўны, а культура трактуецца нароўні са спортам і турызмам. Культура меншасцей, якія пражываюць у Беластоку, ігнараваная. У сваю чаргу ў дакуменце «Беласток для талерантнасці» ў галіне культуры запісана неабходнасць «павышэння ўзроўню ведаў аб культуры, рэлігіі, традыцый і гісторыі нацыянальных меншасцей і замежнікаў, што будзе весці да шырокага распаўсюду ўстановак талерантнасці», а ў аператыўных мэтах — «арганізаванне культурных і спартыўных мерапрыемстваў, якія будуць весці да азнаямлення з культурай, рэлігіяй і традыцыяй розных народаў», «вядзенне сумесных намаганняў па падтрымцы традыцый і пераемнасці культуры нацыянальных і этнічных меншасцей». Затое сярод практычных рэкамендацый, змешчаных у рапарце «Прагулка па пракладзеных сцежках», падкрэсліваецца неабходнасць «пашырэння тэрміна „шматкультурнасць", прысутнага ў культурнай палітыцы, на новыя сэнсы, якія тычацца разнастайнасці ладоў жыцця».

У апошні час (22 сакавіка) я трапіў на другую кансультатыўную сустрэчу. Пасля перамоў па гэтым пытанні з прадстаўнікамі гарадскіх культурных устаноў, на гэты раз былі запрошаны прадстаўнікі няўрадавых арганізацый. Запрашэнне было накіравана да больш за сто такіх арганізацый, у тым ліку беларускіх, а пакарысталася ім пад дваццаць суполак (у тым ліку згуртаванне АБ-БА і Беларускае гістарычнае таварыства). Прыкладна паўтары гадзіны гутаркі звялося галоўным чынам да выказвання запрошаным бокам нараканняў. Прадстаўнікі няўрадавых арганізацый скардзіліся, у прыватнасці, на недахоп офісных памяшканняў, аб'ём субсідый і спосаб фінансавання іхніх праектаў, вынеслі пытанні даступнасці да культуры. Яшчэ ў пачатку сустрэчы дырэктар дэпартамента культуры, прамоцыі і спорту Эдыта Мазырская паспрабавала заахвоціць яе ўдзельнікаў аднесціся да прыярытэтаў, распрацаваных на сустрэчы з прадстаўнікамі гарадскіх устаноў культуры і, мабыць, іх папоўніць. Усіх прыярытэтаў сем: культурная адукацыя, развіццё і даступнасць культурнай прапановы ў беластоцкіх мікрараёнах, развіццё культурных устаноў і іх інфраструктуры, прасоўванне мясцовых культурных мерапрыемстваў, мастакоў і аніматараў культурнага жыцця, прыдбанне атрыбута ў выглядзе «культурнай візітнай карткі» горада і яго характару, гістарычная палітыка горада, ідэнтычнасць горада.

Я адважыўся запрапанаваць, каб сярод прыярытэтаў гарадской культурнай палітыкі апынуўся (і то на высокай пазіцыі) запіс аб аказанні спецыяльнай падтрымкі з боку гарадскіх улад праектам нацыянальных і этнічных меншасцей Беластока, звязаных з падтрымкай і развіццём гэтай часткі агульнай культуры ды дэкларацыя адкрыцця культурнай прапановы горада на патрэбы ўсіх жыхароў Беластока, якія ідэнтыфікуюць сябе з нацыянальнымі, этнічнымі і рэлігійнымі меншасцямі, а таксама каб панятак шматкультурнасці Беластока было ўдакладнена. На мой погляд, такое ўдакладненне павінна быць таксама ў прыярытэтах ужо распрацаваных, асабліва ў пунктах датычных ідэнтычнасці горада, яго гістарычнай палітыкі, і адметнасцей у выглядзе «культурнай візітнай карткі» Беластока. Дырэктар Мазырская, як і іншыя службовыя асобы па культуры, якія ўдзельнічалі ў сустрэчы, здаецца, мае прапановы прынялі да ведама. Як мае прапановы паўплываюць на запісы ў канчатковай форме рыхтаванага дакумента — убачым у бліжэйшыя месяцы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Гімназічныя спаборніцтвы па беларускай мове

**Традыцыяй ужо стала, што прадметныя конкурсы па беларускай мове для вучняў падставовых школ і гімназій праходзілі ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. І так было сёлета з конкурсам для вучняў пачатковых школ. Аднак ваяводскія элімінацыі Ваяводскага прадметнага конкурсу па беларускай мове для вучняў гімназічных школ адбыліся 17 сакавіка ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Вучні масава прыступілі да конкурсу па роднай мове і ажно 52 гімназісты спаборнічалі ў Гайнаўцы за званне лаўрэата або фіналіста.**

На напісанне конкурснага тэста адведзена было паўтары гадзіны, але першыя гімназісты пачалі аддаваць свае працы камісіі і выходзіць з актавай залы школы не папрацаваўшы з тэстам нават і гадзіны. Толькі крыху звыш гадзіны займаўся з тэстам Максім Фіёнік з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Пасля праверкі прац аказалася, што менавіта Максім Фіёнік і вучаніцы Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Магдалена Мішчук і Юлія Кобаць набралі ажно па 59 балаў, найбольш балаў з ліку ўсіх канкурсантаў.

— Тэст быў лёгкім і на ўсе задачы можна было адказаць. Мы ў школе працавалі па матэрыяле прадбачаным на сёлетні конкурс. На падставе гэтага матэрыялу састаўляліся конкурсныя задачы, — заявіў Максім Фіёнік з бельскай «тройкі» пасля выхаду з залы. Вучняў з бельскай «тройкі» на ваяводскія элімінацыі прыехала многа, а апекавалася імі настаўніца беларускай мовы Міраслава Маркевіч.

— Вучні не ведаюць, якія зрабілі памылкі і не знаюць, як іх адкрытыя адказы ацэніць конкурсная камісія. Таму адразу многім здаецца, што добра справіліся з тэстам, а пасля аказваецца інакш, — перасцерагала настаўніца Міраслава Маркевіч.

— Вучні падчас прадметных конкурсаў па беларускай мове часта выходзяць намнога раней, чым прадбачана. Я візітатару з Кураторыі ў Беластоку, які прыехаў на наш конкурс сказала, што беларускай мове нашы вучні пачыналі вучыцца з другога класа пачатковай школы, ведаюць яе і хутчэй могуць справіцца з тэстам, — сказала пасля завяршэння конкурсу настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ у Нараўцы Анна Кандрацюк, якая працавала ў конкурснай камісіі.

Настаўнікі беларускай мовы часта паўтараюць сваім вучням, каб, адказаўшы на конкурсныя задачы, па некалькі раз праверылі напісанае і не спяшаліся. Аднак сказанае часта застаецца толькі тэарэтычнай парадай.

— Мы пішам тое, што ведаем, спраўджваем напісанае і выходзім, — тлумачаць гімназісты.

У гэтым годзе на конкурс прыехала многа навучэнцаў беларускай мовы з Беластока — з Гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія і Гімназіі № 7. Вучні абедзвюх школ, якія хочуць паступіць у прэстыжныя ліцэі ў Беластоку, асабліва намагаюцца, каб стаць лаўрэатамі прадметнага конкурсу па беларускай мове, бо такое званне дае магчымасць паступіць у выбраную звышгімназічную школу па-за конкурсам.

— Многія задачы ў тэсце былі простымі для выканання, але мы апасаемся, што маглі зрабіць памылкі, — гаварылі Вераніка Кардзюкевіч, Агнешка Зданоўская і Якуб Голец з Кірыла-Мяфодзіеўскай гімназіі ў Беластоку.

— Я і Іаанна Марко вучым у Гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Я прывезла вучняў на конкурс, а Іаанна працуе ў камісіі. У нашай гімназіі дзейнічаюць ужо першы, другі і трэці класы. Летам гэтага года паявяцца першыя выпускнікі нашай гімназіі, — сказала настаўніца беларускай мовы Юліта Сушч.

— У гэтым годзе ў тэсце многія задачы былі адкрытымі. Каб можна было добра справіцца з імі, патрэбнае было добрае веданне лексікі беларускай літаратурнай мовы. Вучням, якія лепш умеюць размаўляць на літаратурнай беларускай мове, лягчэй было справіцца, напрыклад, з напісаннем запрашэння на Сустрэчы «Зоркі». Для аналізу твораў, ці для адказу на іншыя адкрытыя пытанні, таксама патрэбнае было веданне беларускай лексікі. Аднак вучням, якія ў падставовай школе і ў гімназіі працавалі салідна і засвойвалі новую лексіку, адкрытыя задачы ў тэсце не былі страшнымі, — сказала настаўніца Анна Кандрацюк.

Да гімназічнага конкурсу вучні рыхтаваліся разам са сваімі настаўнікамі падчас урокаў і пазаўрочных заняткаў. У школах узніклі нават кружкі беларускай мовы, якія рыхтуюць гімназістаў да прадметнага конкурсу па беларускай мове, да дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», а ў выпадку вучняў з Гайнаўскага павета, таксама да конкурсу «Беларуская гавэнда». Найбольш часу трэба, каб падрыхтавацца да прадметнага конкурсу. Настаўнікі пачынаюць займацца з вучнямі ўжо ад пачатку школьнага года.

— Каб дабіцца поспехаў і атрымаць званне лаўрэата гімназічнага прадметнага конкурсу, трэба ўважліва вучыцца беларускай мове ўжо ў падставовай школе. Часта тыя вучні, што перамагаюць у прадметным конкурсе ў пачатковай школе, пасля становяцца лаўрэатамі і ў гімназічным конкурсе па беларускай мове. Пасля падрыхтоўка да прадметнага конкурсу пачынаецца ўжо з першага класа гімназіі, калі вучні займаюцца ў адпаведнасці з праграмай навучання. Цэлы час мы працуем з гімназістамі па граматыцы, а здабытыя па ёй веды вучні выкарыстоўваюць падчас рашання граматычных задач у тэсце і ў час аналізаў тэкстаў, каб зрабіць як найменш памылак. Пазней мы працуем ужо паводле прымеркаваных да канкрэтнага прадметнага конкурсу патрабаванняў, — патлумачылі настаўнікі, якія прыбылі на гімназічны конкурс.

— У тэсце было пытанне, да якога няма ў нас перакanання, што мы з ім паспяхова справіліся. Там трэба было напісаць кім не быў наш паэт Віктар Швед. Да выбару было многа адказаў і мы рашыліся напісаць, што не быў ён настаўнікам. Мы ведалі, што ён пісьменнік, перакладчык. Іншыя адказы таксама да яго падыходзілі, то заставалася напісаць, што не быў настаўнікам, — сказалі вучні бельскай «тройкі».

— Нам трэба было напісаць характарыстыку героя твора «Велікодныя яйкі». Тут маглі мы выкарыстаць умеласці, якім навучыліся праводзячы аналізы твораў на ўроках беларускай мовы, — заявілі вучаніцы Уршуля Марчук, Карнелія Барэчка і Магда Бяляўская з Гімназіі ў Нараўцы.

— Трэба было выказвацца па творах Наталлі Арсенневай «Тваё імя» і «Вячэрняя містэрыя», якія нам падабаюцца. Мы, рыхтуючыся да конкурсу, вучыліся пра жыццё, працу і дзейнасць Арсенневай, але не ведаем, ці правільна напісалі, дзе яна жыла і працавала ў канкрэтным часе, — сказалі Соня Сульжык з Гімназіі ў Гарадку і вучні бельскай «тройкі».

Пасля праверкі прац конкурсная камісія ацаніла, што ўзровень падрыхтоўкі гімназістаў да конкурсу быў добры. Паводле журы хапала гімназістам часу, каб задумацца, правільна адказаць на пытанні ў тэсце і праверыць свае работы. Здараліся памылкі, асабліва ў тых месцах, дзе вучні даўжэй адказвалі на патрабаванні ў задачах. З Бельскай белгімназіі, дзе найбольш гімназістаў вучыцца беларускай мове ў маштабе Беласточчыны, прыехала ажно 15 асоб і многія з іх сталі лаўрэатамі. З Гайнаўскай белгімназіі, Гімназіі № 2 у Гайнаўцы таксама многа асоб прымала ўдзел у конкурсе і многія з іх дабілася звання лаўрэата.

Па 58 балаў набралі і занялі другое месца Аляксандра Буслоўская з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы і Аляксандра Пэткаў з Бельскай белгімназіі. Па 57 балаў здабылі і занялі трэцяе месца Патрыцыя Лапінская, Эмілія Масальская і Караліна Палікатус, усе з Гайнаўскай белгімназіі і Уршуля Марчук з Гімназіі ў Нараўцы.

— Больш складана было выконваць вопісныя задачы. Аднак беларускай мове я вучылася ад пачатку ў Падставовай школе ў Новым Корніне і думаю, што справілася з задачамі, — заявіла Караліна Палікатус з Гайнаўскай белгімназіі.

— Велікодныя віншаванні для бабулі ці характарыстыка героя твора «Велікодныя яйкі» не былі складанымі, але маглі мы зрабіць памылкі. Падабаюцца нам вершы Наталлі Арсенневай, ведалі мы пра яе жыццё і творчасць і тут ужо былі канкрэтныя адказы, — сказалі Патрыцыя Лапінская і яе сяброўкі з Гайнаўскай белгімназіі.

— А нам падабаліся задачы, дзе трэба было выказвацца ад сябе, дзе мы маглі карыстацца лексікай, якую раней засвоілі і выявіць свае думкі. Па граматыцы заўсёды цяжэй выказвацца, але ў сённяшнім тэсце было толькі адно пытанне па граматыцы, — гаварылі вучаніцы Гімназіі № 7 у Беластоку Барбара Лук'янюк, Анна Карнілюк, Наталля Савіцкая і Зося Конюх.

— Мы з нашай настаўніцай паводле конкурсных патрабаванняў многа часу рыхтаваліся да напісання гэтага тэста і думаем, што добра справіліся з конкурснымі задачамі, — сказалі Агнешка Петручук і Якуб Ваўжэнюк з Гімназіі ў Нарве.

Па 56 балаў здабылі і занялі чацвёртае месца Агнешка Саўчук з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, Адам Сцепанюк з Бельскай белгімназіі, Соня Сульжык з Гімназіі ў Гарадку і Якуб Ваўжэнюк з Гімназіі ў Нарве.

Па 55 балаў набралі і занялі пятае месца Габрыеля Карбоўская і Радаслаў Саковіч з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, Вераніка Кардзюкевіч з Кірыла-Мяфодзіеўскай гімназіі ў Беластоку, Вераніка Кубай і Вераніка Семянюк з Бельскай белгімназіі, Барбара Лук'янюк з Гімназіі № 7 у Беластоку і Агнешка Петручук з Гімназіі ў Нарве.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Сухія дрэвы

Я, солтыс Новага Ляўкова і радны Нараўчанскай гміны ўжо трэці год дамагаюся, каб Праўленне павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы ссекла сухія дрэвы паабапал павятовай дарогіў Новым Ляўкове. Гэтая дарога пралягае праз вёску ў Старое Ляўкова. Пры дарозе стаяць сухія таполі, ліпы і ясені. Іх агледзелі дзве камісіі і пазначылі чырвонай і сіняй фарбамі. Праз гады дождж і сонца зрабілі сваё. Фарба змылася. Ці зноў будуць патрэбны камісіі?

У гайнаўскае ППД былі накіраваныя ў гэтай справе шматлікія пісьмы з Гміннай управы. Апошняе нядаўна, 11 сакавіка гэтага года. Кіраўнічка ППД дагэтуль толькі піша ды піша, а як жа, адказы то праз месяц, то праз два, з якіх нічога не атрымліваецца, няма ніякага зруху. Зацікаўленых водзіць — як кажуць — за нос. Вось часы насталі.

Я і тэлефанаваў у ППД, і гаварыў падчас сесій Гміннай рады, на якія двойчы прыязджала кіраўнічка (яна давала абяцанні) ды два разы інфармаваў пра патрэбу ссячы сухія дрэвы старасту Гайнаўскага павета. Ды нічога — як дагэтуль — не атрымліваецца, ні адзін крок наперад. Бачу ў гэтым і віну гайнаўскага старасты, якому падпарадкаванае ППД. Чакаем, чакаем, а тут і атрымаем — як было і дагэтуль — адказ, што ўжо прыйшоў красавік і дрэў нельга сячы, бо надышла пара птушынага гнездавання і пачакайце да восені. У маім выпадку ўжо да трэцяй восені!

Можа гэты мой допіс у „Ніву" перакласці на польскую мову і рэдакцыя вышле ў ППД? Калі я працаваў у рэдакцыі „Нівы" і быў, між іншым, адказным рэдактарам з крытыкай і меў пячатку „Odpowiedzialny za krytykę red. Jan Ciełuszecki", мы гэтак рабілі (пісалі пісьмо на польскай мове на фірменным бланку ды прыкладалі выразку артыкула з газеты і перакладзены яго змест на польскую мову) і... былі задавальняючыя вынікі. Амаль у кожным нумары нашай роднай газеты давалі па некалькі адказаў розных установ на нашу нўскую крытыку. Мы правяралі іх выкананне. Ездзілі ў разведку па сігналах чытачоў. Мы шмат каму дапамагалі. Мелі тады многа чытачоў беларускага штотыднёвіка.

## Выбоіны на дарозе

Зараз у асфальтавай мастовай ваяводскай дарогі № 687 у пачатку вёскі Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) глыбокія выбоіны. На гэтым 250-метровым кавалку дарогі небяспечна ехаць. Ломяцца амартызатары ды рысоры. Новаляўкоўцы гэтага сведкамі. Аўтамашыны ездзяць сярэдзінай дарогі або пераязджаюць з аднаго боку на другі — дзе менш „дзірак". Якая гэта язда!

Стары ломкі асфальт на мастовай хутка раструшчваюць грузавікі, якія возяць, між іншым, цэглу са стараляўкоўскай керамічнай фабрыкі або якія возяць бярвенні з лесу. Рамонт гэтага адрэзка дарогі не закончылі два гады таму. Рамантавалі, рамантавалі ды пакінулі той рамонт у сярэдзіне лета. Нядаўна г.зв. дэструкт паклалі на чыгуначным пераездзе ў Плянце. І тут ужо беспячней ехаць.

Дарожная служба, залатай выбоіны ў асфальце на рухлівай артэрыі ў Новым Ляўкове!

## Брудныя прыстрэшкі

У Гайнаўцы на некаторых вуліцах ёсць больш, а на некаторых менш прыстрэшкаў на прыпынках аўтобусаў гарадской камунікацыі. Ёсць прыпынкі і без прыстрэшкаў. У апошніх гадах будуюць іх з жалезных рамаў ды з плексігласу. Яны прыгожыя, лёгкія, празрыстыя. Найбольш іх у цэнтры горада па вуліцы 3 Мая і па вуліцы Стэфана Баторыя. Нядаўна адзін такі новы прыстрэшак паставілі пры вуліцы Ліпавай і адзін побач бальніцы.

Зараз найбольш брудныя ды запыленыя прыстрэшкі-дашкі па вуліцы 3 Мая. Мінулым летам іх памылі ўсяго адзін раз. Дырэкцыя Прадпрыемства гарадской камунікацыі (ПГК) у Гайнаўцы павінна і цяпер — яшчэ перад Велікоднымі святамі — навесці парадак ды памыць некаторыя прыстрэшкі, у першую чаргу ў цэнтры горада ды асабліва два з іх, якія знаходзяцца паблізу касцёла. Тут прытрымліваюцца аўтобусы ПГК, ПКС і прыватнага пасажырскага аўтатранспарту.

**(Янка ЦЕЛУШЭЦКІ)**



Фота Іааны Дамброўскай

# Клуб актыўных Міхалоўскай гміны

Першы раз паявіўся я на сустрэчы Клуба актыўных жыхароў Міхалоўскай гміны і горада Міхалова 3 сакавіка. Ініцыятаркай заснавання клуба, замест даўняга Гуртка вясковых гаспадынь (што гучыць па-старадаўняму, а трэба ісці з духам часу) з'яўляецца радная Святлана Лукша. Святлана разам з мужам Славікам вядуць краму, а дадаткова Славік з двойкай дзяцей вядзе сямейны калектыў «Сакрэт», разьвесяляючы гасцей на вяселлях і беларускіх імпрэзах. У краме Лукшаў можна купіць артыкулы для лоўлі рыб, напоі, ласункі, касметыку, прэсу, кніжкі, боты, адзенне, і нават зрабіць ксеракопіі. Неаднаразова купляю я ў краме Лукшаў, і прашу паню Святлану, каб мяне густоўна апранула на розныя імпрэзы. Адчуваю сябе ў выбранай ёю апратцы знакаміта! Святлана тлумачыць, што клуб падлягае пад Фонд Агнешкі Штандар-Штандэрскай, якая з'яўляецца старшынёю Польскага фонду развою вясковых абшараў. Пазнаёміўся я з Агнешкай, калі будаваў на яе падворку саламяна-гліняны дом — была яна ініцыятаркай майстар-класа па пабудове дамоў з саломы і гліны. Разам з мужам і парай дзяцей вядзе агратурыстычную гаспадарку і статак коней у вёсцы Капцы ў Міхалоўскай гміне. Якраз калі мы наведвалі Агнешку разам з маёй сястрой Эляй, шваграм Кшыськам і іх сынамі Кандратам і Мілошам, шасцігадовы Мілош першы раз адважыўся сесці і праехацца на кані. Менавіта тады прагучала прапанова, каб і я запісаўся ў клуб актыўных міхалаўчан, бо запісваюць і мужчын. А я хачу прамаваць нашу гміну і Падляшша таксама праз заяву ўдзелу ў праграме «Селянін шукае жонку»... Ва ўправе фонду (здаецца, яна там наймаладзейшая) — Іаанна Дамброўская, рэдактарка **«Gazety Michałowa»**, пры Доме культуры ў Міхалове, якая апісвае падзеі і прамуе актыўных жыхароў гміны.

Сёння на сустрэчы чатырнаццаць асоб, на агульны лік 27, у тым ліку 5 мужчын. Тэмай занятка з'яўляецца «пячэнне бульбяных пончыкаў». Рэцэпт прапануе Геня Яхімовіч, і яна распачынае цэлы працэс: перасявае муку, каб была яна пушыстая а не збітая, дрожджы расціраe з цукрам, мяшае з яйкамі і ванільным цукрам, дадае муку, і бульбу раней звараную са скуркай, ужо аблупленую, праціснутую праз ручную бульбамялку, і вырабляе гнуткае цеста. З цеста фармуе галушкі, начыняе іх джэмам і адстаўляе на 20 хвілін, каб выраслі. Побач мяне сядзіць пані Аня родам з Ціванюк, якая цяпер з мужам і сям'ёй жыве ў Міхалове. Прызнаецца, што вельмі любіць смяяцца, што відаць па яе прамяністай усмешцы і б'ючай з яе фантанам жыццярадаснасці. Усе тут такія! Насупраць нас сядзіць маладая прыгажуня, якую я калісьці пусціў перад сабою ў чаргу ў Асяродку здароўя... Столькі было тэм, якія мы кранулі — пра харчаванне і прыгатоўванне здаровай і смачнай ежы! Святлана прапануе нам, каб мы сабраліся праз тыдзень, у чацвер у пажарным дэпо ў Міхалове — навучыцца рабіць рулецікі, якія хутка робіцца і файна выглядаюць на талерцы, і хуткую страву з лустачак ласося або шынкай, аздобленую кактэйльнымі памідорчыкамі, калі раптам неспадзявана наведаюць нас госці. На папярэдніх сустрэчах навучыліся рабіць аранжавую наліўку і салат з тунца. А будзем мы цяпер рабіць лімонную наліўку...

Гучаць прапановы на наступныя сустрэчы: рулет — які можна зрабіць хутка, прыгожа і смачна — з сырам, шпінатам, ласосем, а наверх дадаць курыную грудзінку, перакласці цёртым сырам, а пасля молатым мясам, і зноў цёртым сырам, а пасля ўсё запячы ў гарачатрывалым посудзе ў печцы... Мусяць гаспадыні запланаваць стравы на чатыры сустрэчы, таму што пад канец сакавіка мае быць гатовы ўвесь праект. Робіць здымкі з усіх сустрэч, далучаючы да хронікі. Заўважылі, што маладыя гатуюць усё здаравейшыя стравы, менш у іх тлушчу, больш зеляніны, гароднiны, садавіны. Пані Матэйчык прапануе навучыцца пячы штосьці святочнае. Зноў вяртаецца тэма куплі посуду. Міра кажа, што мае сяброў у аптовай краме ў Беластоку, дзе можна купіць спецыяльныя бляшкі для «марцінка» (хутка пячэцца!) і іншы посуд. У маі ў Міхалове будзем адзначаць Дзень пажарніка, і ў замен за наём залы аддзячымся падрыхтоўкай страў. Толькі ёсць фінансавая праблема — трэба купіць посуд. Бургамістр не хоча нас падтрымаць, выступіць нашым спонсарам. А мы ж маем падрыхтаваць стол на выставу, прамаваць гміну. Клуб незалежны, а прабуюць падчапіць яго да Майстэрні фатаграфіі і фільма, якой кіруе Тамаш Вісьнеўскі. Святлана яшчэ раз чытае ліст бургамістру, на які атрымала вусны адказ аб тым, што ён адмаўляецца падтрымаць куплю посуду для клуба. Ці маем свяціць вачыма на імпрэзах? Штосьці там абяцае Лешак Грыц. Гаворка толькі пра 1 300 злотых, але калі атрымаем 200, таксама будзе няблага. Мы ж арганізацыя няўрадавая, маем прымаць удзел у суседскай імпрэзе. Разасланы мы ўжо ўлёткі па аптовых крамах, па фірмах. Калі атрымаем нейкія грошы, ужо будзе поспех. Сабралі 28 злотых на складнікі для страў на наступныя сустрэчы... А сённяшнія некалькі пончыкаў хоць адбаўляй — дасталася яшчэ сябрам на дарогу і на пачостку дома. А якія пушыстыя і смачныя былі тыя пончыкі — нідзе я не еў лепшых! Гэтага найлепшага смаку дадала вараная бульба!

Жанчыны шумяць:

— Чаму мы маем ісці да іх? Няхай яны ідуць да нас у дэпо. Аська, ты ж маеш знаёмую спецыялістку па дыетах, няхай зробіць нам даклад па пахудзенні. Ну, цяпер час пончыкаў, смажання іх, вядома, на тлушчы, а ёсць знакамітыя спосабы, каб не прасяклі яны тлушчам — можна дадаць у алей пачышчаную бульбіну або дадаць у цеста кілішак спірту. Самі яны абарочваюцца ў тлушчы, а праверыць ці яны гатовыя можна ўткнуўшы ў пончык драўляную палачку, выняўшы іх на папяровы ручнік, каб сцёк алей... А калі пасыпаць іх цукровай пудрай, ужо гатовыя...

Я спачатку не думаў быў запісвацца ў гэты клуб, але такая мілая, сямейная атмасфера заахвоціла мяне ўключыцца ў такую файную кампанію. Бо дзе ж не адчуеш сябе так хораша, як паміж цудоўнымі, дасведчанымі жанчынамі, якія з такімі ўмеласцямі могуць быць маімі настаўніцамі. Бо ж толькі ад найлепшых гаспадынь магу навучыцца гатаваць, каб пасля дагадзіць жанчыне майго жыцця, праўда? Мае новыя сяброўкі сцвердзілі, што тут не трэба асаблівай вышэйшай адукацыі, быць магістрам, прафесарам... паліцыянтам... пракурорам, суддзёй ці парламентарыем... Трэба быць сабою, бо кожны ж звычайны чалавек, толькі часам гэтага не бачыць за сваёй ганарлівасцю...

Да такіх мілых сустрэч і ўражанняў кожны заўсёды ахвотна вяртаецца, таму лічу што на наступныя сустрэчы гуртка актыўных не толькі гаспадынь зыдзецца шмат асоб, нягледзячы на тое, што ў жанчын найбольш абавязкаў дома.

**Аляксандр АНХІМ**

## Бульбяныя пончыкі Гені Яхімовіч

- 1 кг мукі, ванільны цукар, 1 кг бульбы зваранай у мундзірах (перакруцінуць на машынцы ці праціснуць праз бульбамялку), 120 г дражджэй, паўмаргарына (растапіць), 1 лыжка цукру да рошчыны, 2 цэлыя яйкі, 1 кілішак спірту, 1 шклянка малака.
- Муку праціраем, дрожджы расціраем з цукрам, мяшаем з яйкамі і ванільным цукрам, дадаем муку, бульбу і вырабляем цеста.
- З цеста фармуем пончыкі, адстаўляем на 20 хвілін, каб выраслі. Смажым у глыбокім алеі. Асушваем ад тлушчу, абцярушваем цукровай пудрай.

# Свет з зямлянкі

**Дванаццацігадовая Зіна Буднік разам з сяброўкамі збірала каштаны, патрэбныя на школьныя заняткі. Настаўнік абяцаў, што заўтра будуць рабіць каштанавых чалавечкаў. Найвялікшыя каштанавыя дрэвы раслі за вёскай. Там Зіна ўпершыню ўбачыла немцаў, якія ўязджалі на матацыклах у Мастаўляны.**

Спадарыні Зіне памяць апошнім часам значна пагоршылася. Падзеі больш чым сямідзесяціпяцігадовайдаўнасці вяртаюцца да яе дробнымі эпізодамі, жменькамі канкрэтных эмоцый і перажыванняў.

— Завыла вясковая точка: 22 чэрвеня, у чатыры часа Кіеў бамбілі, нам аб'явілі што пачалася вайна, — паўтарае быццам школьны вершык.

Не хоча гаварыць пра вайну. Баіцца, каб сваімі ўспамінамі, быццам духаў на Дзяды, не выклікаць. Праўнучак спадарыні Зіны Вішэйкі з дому Буднік — Якуб Тамулевіч — таленавіты крынскі гімназіст. У сваёй працы пад мілагучным загалоўкам „І калісь цвілі незабудкі" піша:

„Найгоршым у цэлай вайне з'яўляецца страх, — успамінае прабабуля. — Ніколі не ведаеш, што заўтра цябе чакае. Спачатку немцы вялі сябе карэктна. Заклікалі жыхароў вёскі захаваць спакой, абяцаючы адначасова, што з іх боку няма ніякай пагрозы. Усё-такі былі гэта пустыя словы. Моладзь павывозілі на прымусовыя работы, у канцлагеры. Людзі знікалі раптоўна, панаваў голад і бяда". (Jakub Tomulewicz, „Dawniej też kwitły niezapominajki...", s. 3, Fundacja MultiOcalenie — konkurs Podlaskie Historie Rodzinne z II wojną w tle.)

У гасцінным пакоі Буднікаў пасяліліся два нямецкія афіцэры. Маці нанач зачыняла найстарэйшую дачку Надзю на гарышчы. Выпускала толькі ўдзень у час адсутнасці афіцэраў. Баялася, каб яе сексуальна не выкарысталі, так як іншых вясковых дзяўчат. Немцам спадабаліся дочкі мясцовага бацюшкі. Спадарыня Зіна помніць двух жаўнераў з-пад знака мёртвай галавы, якія рэгулярна наведвалі бацюшкавых дзяўчат. Можа сапраўды закахаліся. Не вывезлі таксама Уладка, старэйшага брата спадарыні Зіны. Ён працаваў у мясцовым млыне, а дакладней выконваў усе загады адзінага сына немецкага млынара з Міхалова — Эдмунда. А яшчэ разам з бацькам Філіпам пільнаваў недалёкай чыгункі. Днём на станцыі Валілы сядзелі параненыя ў час франтавых дзеянняў нямецкія жаўнеры. Ноччу паасобных прамежкаў сцераглі мясцовыя. Зімой грэліся пры вогнішчах ва ўласнаручна выкапаных зямлянках.

Рускі салдат без языка таксама назаўсёды застаўся ў памяці спадарыні Зіны. Асабліва яго позірк, якім прасіў вады. Быў адным з цэлага транспарту параненых на фронце, якіх везлі праз Мастаўляны ў Савецкі Саюз. Мама спадарыні Зіны гатова была падзяліцца апошняй лустай хлеба з пацярпелымі, але савецкая санітарка адказала ёй: „Спасибо, хозяюшка, мы обеспечены".



Шлюбны партрэт Зіны і Аляксандра Вішэйкаў

Савецкая ўлада таксама пакінула па сабе кепскія ўспаміны. Так іх віталі, так цешыліся, што настане абяцаная імі бясплатная адукацыя, роўнасць, воля. Спадарыня Зіна не можа зразумець, чаму столькі людзей на Сібір павывозілі. „За што?" — пытае.

— У нашай вёсцы солтыс такі добры быў, — успамінае. — Чацвёра дзяцей меў. Цэлую сям'ю вывезлі. Жылі ў голадзе і холадзе. Яго сын, год старэйшы за мяне, пайшоў з Андэрсам. Павывозілі і католікаў з хутара за Мастаўлянамі.

Зіна не помніць, каб нехта з мастаўлянскіх мужчын ваяваў на фронце. У Чырвоную Армію забралі яе будучага мужа Аляксандра Вішэйку з недалёкай Ярылаўкі. Зараз пасля вайны Зіна закахалася ў Пятра Налівайку, якога яе бацька вучыў кравецтву. Але неяк у 1948 годзе на вясковай забаве з нагоды Дня перамогі падышоў да яе Шурка. Запрасіў да танца і ўжо з ім засталася. Шурку спачатку змабілізавалі ў падрыхтовачны полк у Бабруйск. Там на фіззарадцы спявалі „Вставай, страна огромная,/ Вставай на смертный бой/ С фашистской силой темною,/ С проклятою ордой!". Папаў у бронетанкавую частку. Фарсіраваў Одру, здабываў Берлін. Да канца жыцця быў сур'ёзным, адказным мужчынам, адданым сям'і і грамадству. Зіна па сёння зберагае яго ваенныя ўзнагароды, сталінскія пахвальныя лісты.

А мастаўлянцам прыйшлося чакаць канца вайны ў мокрых, зверху прыкрытых галлём зямлянках. У ліпені пад вёску падыходзіў фронт. Немцы, уцякаючы ад саветаў, правялі аблаву і ўчынілі спусташэнне. Хацелі адпомсціць. Згарэлі хаты, згарэў вадзяны млын. Людзей загналі капаць акопы. Зіна таксама іх капала. Калі ў каго застаўся кусок мяса ў цэбрах, хавалі яго ў зямлю. Завязаўшы вяроўку на шыю каня ці рогі адзінай кароўкі, ішлі на папоўскае балота, за выган. Пад альшынай выкапалі зямлянкі жанчынам, дзецям і старым. Мужчыны пахаваліся ў лесе. Харчаваліся супам з бручкі і нелегальна сабранымі ляснымі ягадамі. Разам з Зінай сядзела таксама яе кума з маленькім дзіцяткам, якое плакала ад голаду і холаду. Іх зямлянка стаяла найбліжэй дарогі. Зіна бачыла полымя і дым дагараючага сяла. Ведала, што дагаралі там таксама старэнькія Даніла і Боўтрук Севяpыны. Засталіся з-за кепскага здароўя, не хапіла ім сіл, каб уцякаць. Іх хаты стаялі насупраць.

Дарожкай з боку Свіслачан на чырвоных коніках прыехалі савецкія разведчыкі. І зноў настала вялікая радасць, вялікая сустрэча. Перамаглі немцаў, але ваенны кашмар працягваўся, людзі надалей гінулі ад голаду, хвароб і бандыцкіх рук. Малодшая сястра Зіны, Вольга, памерла ў 1944 годзе, а брат Уладэк зараз пасля вызвалення.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

PS. Асаблівая падзяка Кубу Тамулевічу за магчымасць пакарыстацца яго працай.

# Багатая вечарына малечаў

У Непублічным прадшколлі № 1 імя св. Дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім 4 сакавіка адбылося мерапрыемства «Багатая вечарына». Тры-, чатыры-, пяціі шасцігодкі выступілі перад вялікай публікай са сваімі песнямі і танцамі. У праграме былі танец «Весялуха», песня «Чыкі-брыкі», лыжкава-маракасавы аркестр, танец дрывасекаў, танец «Ехаў Ясь на кані», песня «Жураўінка», танец «Лявоніха», выступленне дзетак першага класа Непублічнай школы № 1 ды полька «Янка», якую станцавалі ўсе дзеткі разам. Дашкольнікі, апранутыя ў народныя спаднічкі, кашулі з беларускімі матывамі і ў хустачках на галоўках танцавалі, спявалі, іграли, а ўсё пад кіраўніцтвам Марты Зінкевіч, Іаанны Хількевіч і іншых настаўніц.



Ад усіх настаўніц палалі энергія, цяпло і дабрыня, якія пераліваліся яны на сваіх падапечных малечаў. На багатую вечарыну прыбылі таксама госці — архімандрыт айцец Гаўрыіл з Адрынок, айцец Славамір Ярацэвіч, старшыня Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Васіль Піўнік ды намеснік старшыні Аляксей Кардзюкевіч, бургамістр горада Бельск-Падляшскі Яраслаў Бароўскі, войт вясковай гміны Бельск-Падляшскі Раіса Раецкая ды дырэктары школ — Яўгенія Васілюк, Анна Віхоўская, Яўгенія Галка і Міраслаў Хаманюк, кіраўнік Бельскага музея Аліна Дэмбоўская, а таксама бацькі, дзядулі, бабулі, добрыя суседзі і іншыя, якія цікавяцца беларускай культурай. Сярод публікі знаходзіліся таксама гледачы з Бельгіі. Медыйную абслугу вечарыны забяспечыла здымачная брыгада Тэлебачання Беласток на чале з Давідам Гайко.

Публіка неляніевая, як добра малыя артысты выступалі, так і добра іх узнагароджвала апладысментамі. Прагучалі дзве песні ў выкананні ўсіх удзельнікаў і публікі: «Касіў Ясь канюшыну» і «Там у полі два дубочкі». Настаўніцы-прыгажуні станцавалі два танцы «Танец з хусткай», «Ой я жыта ды не сеяла». На заканчэнне прамовілі Валянціна Мельнік-Нікалаюк і старшыня брацтва Васіль Піўнік. Яны ганарацца сваімі дзеткамі і цёпладушнымі настаўніцамі, якія многа працуюць, каб прышчапіць наймалодшым любоў да роднага слова і песні.

Малечы атрымалі салодкія ўзнагароды, а госці льняныя міні-ручнічкі. Садок атрымаў прыгожы вышываны ручнік ад Бельскага музея. Усё выступленне вельмі падбадзёрыла ўсіх гледачоў. «Я так падмацаваўся на душы!» — сказаў айцец Славамір Ярацэвіч. І сапраўды, гэтыя дзеці з'яўляюцца лепшымі зярняткамі нашай будучыні... Калі такімі зярняткамі засеем зямлю, можам чакаць багатага ўраджаю.

**Тэкст і фота Лідзіі МАЛІНОЎСКАЙ**

## Турыстычны праход

У суботу 12 сакавіка Таварыства „Амега" ў Чаромсе, ушаноўваючы Міжнародны дзень жанчын, арганізавала пешы рэйд па акраінах Чаромхі. Шэсце пачалося ў 11 гадзін з-пад Гмiннага асяродка культуры і праходзіло па маршруце вуліца Тапалёва, затым гравійкай праз урочышча Ажарова, сяло Кузаву, а канчатковай мэтай стала вадасховішча ў Рэпчычах. Там удзельнікі распалілі вогнішча ля вадаёма і ласаваліся пячонымі каўбаскамі. Удзельнічала ў імпрэзе больш дзесяці членаў і сімпатыкаў таварыства з Чаромхі-Станцыі, Гайнаўкі, а нават Кузавы і Вулькі-Тэрахоўскай. Як канстатавалі ўдзельнікі рэйду, гэта добры пачатак напрадвесні для адпачынку на ўлонні натуры. Ініцыятарамі мерапрыемства былі важакі таварыства Уршуля Савіцкая і Моніка Ярмуловіч, а падтрымку аказалі астатнія члены „Амегі". Па-мойму, ідэя вартая пераймання. Павінны ёю зацікавіцца няўрадавыяарганізацыі,якіяпрапагандуюць здаровы лад жыцця.

## Успамаглі пенсіянераў

Аб сёлетняй пераацэнцы пенсій лепш не гаварыць. Атрымаў я рашэнне ЗУС у гэтай справе. Прачытаўшы службовую пісульку, я даведаўся, што пасля прымянення каэфіцыента 100,24% і ўлічыўшы 208,67 зл. дадатку за дагляд па І групе інваліднасці мая пенсія вырасце з 1573,21 зл. на 1576,99 зл. У выніку арыфметычнай галаваломкі мне штомесячна да пенсіі будзе прыбаўлена... 3,78 зл. Такой пераацэнкі ў перыядзе дваццацігадовага пенсійнага стажу з 1995 года я не атрымаў. Ці аднаразовага дадатку 50 зл., які ў сакавіку прызначылі, хопіць на лякарства хваравітаму пенсіянеру на цэлы год? Аб тым не гаворыцца. Напамінаецца адно аб штомесячных адлічэннях з пенсіі. І хто скажа, што пенсіянеру-інваліду няздольнамудасамастойнагаіснавання дрэнна жывецца?

## Арфаграфічны конкурс

У Кляшчэлеўсай гімназіі адбыўся V Арфаграфічны конкурс, мэтай якога было заахвочванне да засваення прынцыпаў арфаграфіі польскай мовы і чытальніцтва. Дыктоўка пачалася сказам: «Глядзі, каб не зганьбаваць свайго добрага імені». У конкурсе ўдзельнічала пятнаццаць гімназістаў. Лаўрэатамі сталі Наталля Шымчак (першае месца), затым адпаведна Матэуш Шымчак і Анна Нікіцюк.

**Уладзімір СІДАРУК**

**СПАЧУВАННІ**

Словы спачування нашаму сябру **Анатолю Вапу** Яго родным і блізкім з прычыны напаткаўшага іх гора – смерці бацькі.

**Сябры, рэдакцыя Нівы**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


## Вершы Віктара Шведа



### Адмысловы падзел

Настаўнік запытаў Зосю:
— Скажы мне адмыслова,
Колькі будзе калі восем
Раздзеліш па палове?

Адказвае Зося бойка:
— Калі ўздоўж — дзве тройкі.
А ў папярок калі —
Дык будуць два нулі.

### Галодны слон

Дырэктар заапарка
Скардзіцца ўжо штодня.
— Ліхая гаспадарка,
А наш слон галодны.

А ларкоў, дзівота,
З фруктамі шмат новых...
— Выпусці яго ты,
Хто ж слану адмовіць?

# Нарва сярод пераможцаў

Абяцалі мы, што апублікуем поўны спісак пераможцаў „Беларускай дыктоўкі — 2016” сярод гімназістаў. Як мы ўжо пісалі, дыктоўку найлепш напісала Віка Кардзюкевіч з Беластока. Аднак чарговыя месцы — поўны сюрпрыз. На другім месцы апынулася Агнешка Петручук, а на трэцім — Куба Ваўранюк з Нарвы. Яны ўпершыню прынялі ўдзел у дыктоўцы. Вылучэнні атрымалі Матэвуш Бурачэўскі і Зузя Кардзюкевіч.

Нам прыемна адзначыць, што ўсе гэтыя асобы звязаныя з Сустрэчамі „Зоркі”. **(гак)**



# Пагоня на ровары!

Дзень Волі гэта не толькі сур’ёзныя лінейкі і гістарычныя даклады. Усё залежыць ад вынаходлівасці і ад таго, як ангажуюцца ў справу вучні і моладзь. Год таму ў Беластоку пры вялікай зацікаўленасці моладзі выступіў з канцэртам Vincent. Бельскія ліцэісты святкаванні 25 Сакавіка папаўняюць беларускімі гульнямі і рэгіянальнымі смакоццямі...

Вучні першага класа беластоцкай Гімназіі № 7 таксама прыдумалі арыгінальны спосаб святкавання. Настаўніца Альжбета Рудкоўская прапанавала ім выканаць задачу пад загалоўкам «Мая Пагоня». У выніку паявілася карціна на палатне, малюнкі і нават кашулькі. На адной замест каня быў ровар. Задача выклікала шмат жывых думак пра беларускія сімвалы.



## УВАГА КОНКУРС! № 14-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 10 красавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Забег у мульцікі і гуляе...**
**А воўк імчыцца наўздагон —**
**Яго ніяк не даганяе...**
**Цяпер скажы, хто ён?**
**З...**
**(Ю. Свірка)**

**Адказ на загадкі № 10-16: вясна.**
**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Сара Скаўронская з Беластока, Ігар Кардаш з Нарвы, Наталля Стакоўская, Алеся Буткевіч з НШ свсв. КіМ у Беластоку. Віншуем!**

# Як напісалі прадметны конкурс у гімназіі?

Трэба адзначыць што да школьнага этапу конкурсу приступілі 173 гімназісты, з якіх 65 перайшло да раённага этапу. Да ваяводскага конкурсу кваліфікаваліся 53 асобы, з якіх 47 атрымалі званне лаўрэата. Калі мы гарталі спіскі, прыкмецілі, што большасць прозвішчаў нам добра знаёмая, што гэта часта нашы карэспандэнты і паэты. Многія вучні няраз гасцілі на старонках „Зоркі" як героі або ўдзельнікі конкурсаў. Сярод лаўрэатаў ажно 16 гімназістаў, якія пабывалі на Сустрэчах „Зоркі". Таму ваш поспех цешыць нас удвая або і больш. Віншуем!

**ЗОРКА, Фота Г. Кандрацюк**



*Міхал Сахарчук і Агнешка Петручук*

Спісак лаўрэатаў па беларускай мове ў гімназіі адлюстроўвае зварот у бок нармальнасці, хоць ёсць тут сюрпрызы.

Парадавала нас бельская «тройка». Наколькі ў пачатковай школе там атрымаліся мізэрныя вынікі, настолькі добра запрэзентаваліся гімназісты. Ці можа быць інакш?!

У «тройцы» самая вялікая колькасць гімназістаў і настаўнікаў беларускай мовы. Гэтая школа «ад заўсёды» была лідарам беларускіх конкурсаў.

Вялікім сюрпрызам трэба назваць поспех беластоцкай праваслаўнай гімназіі з адносна невялікай колькасцю вучняў. Іх настаўніца Іаанна Марко, калі дадаць яшчэ вучняў ПШ, адна падрыхтавала ажно 16 лаўрэатаў! Прыблізны плён атрымаўся ў спадарыні Міраславы Маркевіч з Бельска, якая падрыхтавала найбольш гімназістаў.

Навіной у сёлетнім конкурсе з'яўляецца прысутнасць вучняў з беластоцкіх гімназій (Гімназія № 32 і Комплекс музычных школ), дзе не вядзецца навучанне беларускай мове. Аказваецца — усё можна! Іх поспех павінны ўзяць пад увагу ў Дубінах, Кляшчэлях, Аўгустове, Орлі ці Міхалове, дзе часта ад многіх гадоў няма ніводнага лаўрэата.

Нам прыемна адзначыць, што дыктоўку найлепш напісалі **Юлія Кобаць і Магдалена Мішчук** з Гайнаўскай белгімназіі ды **Максім Фіёнік** з Бельска. Усе яны набралі па 59 балаў.

А вось рэйтынг школ і поўны спісак лаўрэатаў:

На першым месцы апынулася **Бельская „тройка"** з 14 гімназістамі са званнем лаўрэата па беларускай мове. Гэта: ***Максім Фіёнік*** (59 балаў), ***Аляксандра Пэткаў*** (58), ***Адам Сцепанюк*** (56), ***Вераніка Кубай*** (55), ***Вераніка Семянюк*** (55), ***Уршуля Амбражэвіч*** (54), ***Вераніка Кардзюкевіч*** (54), ***Магдалена Амельяновіч*** (54), ***Эмілія Раманчук*** (53), ***Юлія Скарбіловіч*** (53), ***Аляксандра Валосік*** (52), ***Юлія Банькоўская*** (51), ***Клаўдзія Яканюк*** (49), ***Эмілія Сахарэвіч*** (49).

Другое месца заваявала невялічкая **Гімназія пры НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.** Тут ажно восем лаўрэатаў: ***Вераніка Кардзюкевіч*** (55), ***Аляксандра Салаўянюк*** (54), ***Зузанна Кардзюкевіч*** (53), ***Агнешка Зданоўская*** (52), ***Аляксандра Лашчэўская*** (51), ***Міхал Сахарчук*** (50), ***Агата Усціновіч*** (51), ***Матэвуш Бурачэўскі*** (48).



*Максім Фіёнік*

Сем лаўрэатаў і трэцяе месца належыць **Гімназіі з ДНБМ у Гайнаўцы**. Тут можам гаварыць пра якасную перамогу: дзве гімназісткі набралі ажно па 59 балаў і тры па 57 балаў. Гэта ***Юлія Кобаць*** (59), ***Магдалена Мішчук*** (59), ***Патрыцыя Лапінская*** (57), ***Эмілія Анна Масальская*** (57), ***Караліна Палікатус*** (57), ***Юлія Іванюк*** (54), ***Барбара Мішчук*** (50).

Добры вынік і чацвёртае месца з пяццю лаўрэатамі атрымала **Гімназія № 2 у Гайнаўцы**: ***Аляксандра Буслоўская*** (58), ***Агнешка Саўчук*** (56), ***Габрыела Карбоўская*** (55), ***Радаслаў Саковіч*** (55), ***Уршуля Падгаецкая*** (54).

Па трох лаўрэатаў маюць гімназіі ў **Нараўцы:** ***Уршуля Марчук*** (57), ***Магдалена Бяляўская*** (53), ***Карнелія Барэчка*** (50) ды **Гімназія № 7 у Беластоку**: ***Барбара Лук'янюк*** (55), ***Наталля Савіцкая*** (55), ***Зося Конюх*** (54).

На шостым месцы апынуліся **Гімназія ў Гарадку**: ***Соня Ніна Сульжык*** (56), ***Аляксандра Яроцкая*** (52), ды **Гімназія ў Нарве**: ***Якуб Ваўжэнюк*** (56) і ***Агнешка Петручук*** (55).

Па адным лаўрэацe маюць **Гімназія ў Дубічах-Царкоўных**: ***Гражына Фірс*** (50), **Публічная гімназія № 32 у Беластоку**: ***Мілена Вольга Блажка*** (49) ды **Агульнаадукацыйная музычная школа II ступені імя Вітальда Лютаслаўскага ў Комплексе Музычных школ імя Ігнацы Падарэўскага ў Беластоку:** ***Юлія Іванюк*** (51).

*Міра ЛУКША*

## *Бэз*

*Бэз — брат аліўкі,*
*з прасторы Аркадыі,*
*увасабленне наяды Сірынгі,*
*якую Пан замяніў спачатку*
*ў трасцінку,*
*або ў куст духмяны маем,*
*што яе носіць імя,*
*з якога дудку скрунеш*
*і зайграеш.*
*Персідскія, падышахскія,*
*бялейшыя ад снегу,*
*сіняватыя як незабудкі,*
*маджэнтавыя, пурпурныя,*
*ружовыя...*
*З суквеццем простым*
*і махровым...*
*Сірынга, бэз, сірэнь, ліляк,*
*сінель...*
*Фіялет, сінь, руж і бель...*
*З Канстанцінопаля ў Вену*
*стагоддзі таму,*
*прывезлі куст адмысловы,*
*бэз персідскі-паўднёвы.*
*А цяпер яго*
*дзве тысячы трыста сартоў.*
*Арамат вясновы*
*заверне ў сэрцах, галовах.*
*Ох, ты бэзе,*
*бэзе вясновы...*
*Фіялетавы, белы, ружовы...*

# Польска-беларуская крыжаванка № 14-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10:**

Яр, суп, лупа, сакавік, рой, кара, антэна, за, рак, ёд, самастойны. Рапс, сон, сайт, сук, эра, Парнас, акт, клік, указ, раён, раса, ды.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Ганна Парфянюк** з Новага Корніна, **Габрыела Кіяшка**, **Марцін Лянкевіч** з Шудзялава, **Мартына Барэвіч** з Бабік, **Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Юлія Грыц** з Міхалова, **Марыя Ціханюк** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Іван Карсунскі**, **Фама Васілюк** з НШ свсв. КіМ, **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!





# Рэцэнзіі Сяргея Чыгрына




## Птушыны пералёт у красе вясны

Пра зборнік вершаў Жэні Мартынюк „Птушыны пералёт”

Свой паэтычны зборнік паэтка з Беласточчыны Жэня Мартынюк назвала „Птушыны пералёт”. Выданне пабачыла свет у бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа” летась пад рэдакцыяй Галіны Тваранович.

Прыгожы і сціплы зборнічак з рэпрадукцыяй карціны „З верай і спадзяваннем” Міколы Бушчыка на вокладцы, прыемна ўзяць у рукі і пачытаць. У пачатку зборніка паэтка распавядае пра сябе, дзе яна параўноўвае сябе з подыхам ветру і смела заяўляе, што „я — птушыны пералёт у жыцці іншых”. А яшчэ паэтка баіцца, каб не „збіцца б з дарогі!”, таму што яна ўсё ж — „птушыны пералёт”. Разумею, што ў жыцці хапае ўсяго: розных дарог і трывог, а вось у літаратуры, і гэта адчуваецца па першых вершах зборніка, Жэня Мартынюк даволі нядрэнна сябруе з паэзіяй, з яе адкрыццямі, дасканала валодае рэльефнасцю, дасканалай выразнасцю і аб’ёмнасцю вобразаў. Трэба ўсё ж быць паэтам, каб напісаць такія радкі: „Кажуць, чалавек, як камень. Дык чаму без плачу жыць ён можа?”. Гэты верш наводзіць на роздум. Вядома ж, чалавек — істота моцная і трывалая, мужная і загадкавая. І крэпкая, як камень... Але ж камень — не плача, а чалавек без слёз жыць не можа... Прачытаў гэты верш Жэні Мартынюк, і прыгадалася мне савецкая папулярная некалі песня на словы Роберта Раждзественскага, музыка Ігара Лучанка, а выконваў песню савецкі спявак Эдуард Хіль. Яна была прысвечана абаронцам Брэсцкай крэпасці. Першая страфа гучала так:

Если б камни могли говорить<br>
Под летящими вдаль облаками,<br>
Рассказали б о мужестве камни,<br>
Если б камни могли говорить...

Наогул, пра каменні — геалагічныя помнікі прыроды, шмат напісана, сабрана розных легендаў і паданняў (напрыклад, як у каменні ператвараліся жывыя істоты, пра чортавы камяні, пра камяні-валуны на паверхні якіх ёсць адбіткі ў выглядзе нагі ці пальцаў чалавека, ці ў форме слядоў жывёл і г.д.), але камень, каменні — мабыць назаўсёды застануцца для чалавецтва вялікай загадкай.

Чытаючы многія вершы Жэні Мартынюк, радуешся свежасцю яе пачуццяў, аўтарскаму адкрыццю. Асабліва, калі чытаеш тыя вершы, якія, як снегам, абсыпаны эпітэтамі — мастацкім акрэсленнем істотнай прыметы якога-небудзь прадмета ці з’явы. У паэткі гэта найчасцей выражаецца прыметнікам, прытым вельмі ўдала, прыгожа і ярка. Бо знайсці ўдалы паэтычны эпітэт — справа нялёгкая. Часам паэту даводзіцца забракаваць мноства варыянтаў у пошуках самага аптымальнага, адзіна неабходнага. У паэткі Жэні Мартынюк эпітэты — адны з самых дзейсных і шырока распаўсюджаных паэтычных тропаў: малочная сцяна мяцеліцы, апельсінавае сонца, каштанавыя вочы, жалудовая шапка, італьянскае сонца, снежна-белы паркаль, цюльпанавая сукенка і іншыя.

Паэтка вельмі любіць сонца. Яно прысутнічае ў многіх вершах зборніка. Сонца грэе вершы аўтаркі, сонца надае ім цеплыні і светласці, дабра і чысціні. У вершах, дзе ёсць сонца, адчуваецца, што паэтка выяўляе сваю здольнасць быць блізкай сярод сваіх людзей, прылучыцца да свайго і нечага клопату, добра паспагадаць, падзяліць з людзьмі смутак і радасць. Вершы яе вельмі даверлівыя, летуценныя і разам з сонцам ці праз вобраз сонца паэтка радасна глядзіць на гэты свет. Сонца нельга выкінуць з яе вершаў. Бо вершы апусцеюць, пацямнеюць, як ноч, стануць тужлівымі і прападзе ў іх паэтычная засяроджанасць у тым ці іншым апісанні. Але сонца ёсць, можа нават яго і зашмат, але гэтае слова ў зборніку не дакучае: „сягоння сонца дабратлівым зззяннем у нашае акно заглядае”, „выб’юцца сонцу насустрач...”, „у вачах мамы бляскам мінулага адбіваюцца захады сонца”, „сонца зямлі пакланілася нізка”, „па водах Мармары плыве сонечны дах”, „насустрач сонцу ляцім”, „у італьянскім сонцы зіхацяць макі...” і г.д.

Калі чытаў верш „Прамінанне” на восьмай старонцы, чамусьці прыгадаўся мне паэтычны зборнік Міхася Шаховіча „Прамінанне” (1978). У Шаховіча — жыццёвае прамінанне, у Мартынюк — прыроднае прамінанне. Паэтка і пытаецца ў чытачоў: дакуль прамінанне?

Нязменны элемент вершаў Жэні Мартынюк — сюжэтнасць, няхай хоць невялікая, але сюжэтнасць. І яна ўздзейнічае на пісьмо паэткі, асабліва на паэзію, прысвечаную прыродзе, жыццю, маленству. Адзін з такіх вершаў — „Успаміны”, такі канкрэтны і такі лірычна-прачулы, узнёслы, такі нястрымны ў жаданні зразумець паэтку, яе душу і самоту па родным хутары, зазірнуць у „праменнае дзяцінства”, дзе можна было „схапіць хлеба лусту, толькі што выпечанага мамай, і па лужынах бегчы басаног”. Тым не менш, паэтка не замыкаецца ў коле канкрэтнага, так, як гэта здараецца з некаторымі маладзейшымі аўтарамі. Яна імкнецца ўзняць канкрэтнае на высокі ўзровень сапраўднай паэтычнасці, прымусіць яго працаваць на высокія ідэі ненавязліва, тактоўна, але надзвычай мэтанакіравана. Такая мэтанакіраванасць пошукаў сінтэзу канкрэтнага і агульнага прывялі яе да стварэння міні-цыклаў вершаў пра зямлю, прыроду, вясну, сяброў. Гэтыя цыклы ў зборніку спецыяльна не выдзеленыя, але яны адчуваюцца падчас знаёмства з паэтычнымі радкамі аўтаркі. У вершах паэткі адчуваецца перакрыжаванне свайго роднага, нацыянальнага, беларускага з агульначалавечым: то вось яны Гусакі — маміна калыска, то вось мама з букетам сініх валошак, то вочы ззяюць пад белым квеццем чаромхі...

Вершы Жэні Мартынюк вельмі далікатныя, асцярожныя, нават сарамлівыя. Паэтка здаецца баіцца ў строфах і вобразах па-харошаму пакрыўдзіць не толькі сябе, сяброў, родных, але і прыроду. Філасофскі тэзіс, глыбіня думкі ў творах удала спалучаюцца з размоўнай інтанацыяй, звычайнай, простай рыфмоўкай ці без рыфмоўкі. І першае, што заўсёды кідаецца ў вочы, гэта непасрэднае, дакладнае, лагічнае раскрыццё думкі: яна нібыта ляжыць на паверхні... Адным словам, „Птушыны пералёт” прайшоў паспяхова. Толькі вельмі не хапае ў падобных паэтычных зборнічках кароткай біяграфіі аўтаркі.




## Абрус матчынай спагады

Пра зборнік вершаў Юркі Буйнюка „Непаўторнасць хвілін”

Калі б я нават і не цікавіўся паэзіяй, то ўсё роўна звярнуў бы ўвагу на гэту кніжачку з прыгожай вокладкай. На ёй адлюстравана карціна майго земляка і сябра са Слонімшчыны Міколы Бушчыка „Загадкавыя воблакі”. Мне здаецца вельмі ўдала ўпісаліся „Загадкавыя воблакі” мастака ў паэтычны зборнік Юркі Буйнюка „Непаўторнасць хвілін”, які выйшаў з друку летась у бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа” пад рэдакцыяй Яна Чыквіна.

Жывапіс для Міколы Бушчыка, як і паэзія для Юркі Буйнюка — гэта спосаб пафіласофстваваць. Калі мастак свае меркаванні пра навакольны свет пераносіць на палатно, то малады паэт — у вершы. І калі мастак карыстаецца простымі і даступнымі мастацкімі сродкамі: колерам, лініяй, плоскасцю, то паэт — вобразамі, параўнаннямі і адкрыццямі. І калі я доўга гляджу на вокладку зборніка вершаў, на воблакі, намаляваныя Бушчыкам, то мне падаецца, што твор мастака па-паэтычнаму цудоўна апісаў аўтар у сваіх 40 вершах, якія і склалі зборнік. Атрымалася сапраўдная непаўторнасць хвілін. Яна вяртае аўтара і ў родную вёску, і ў маленства, і да бацькоў, і да каханай, і да роднай прыроды. Усё ў кнізе прафесійна зроблена, спланавана, напісана і адточана.

Паэзія — неабмежаваная і бясконцая творчасць. Гэта даказваюць і вершы Юркі Буйнюка. Паэт не адмаўляецца ад натуральнасці, ад традыцыйнай паэзіі, але ён спрабуе ісці далей у сваіх вобразах і ў сваім пераасэнсаванні рэчаіснасці. Ён, хоць і асцярожны, але адчуваецца, што з цягам часу ў яго будзе шмат паэтычных адкрыццяў і эксперыментаў. Яго творчасці ўласціва не толькі філасофская разважлівасць, але і адначасова эмацыянальная ўзрушанасць. Гэта ўзрушанасць багата на ўвасабленні і эпітэты. Паглядзіце, як аўтар смела і хараша надае ўласцівасці жывых істот рэчам, прадметам, з’явам прыроды: вецер-конь, душа-кватэра, дажджы-барды, маці-хаты і г.д. Такая „жываістотнасць” ці „ачалавечванне” навакольнай рэчаіснасці была ўласціва людзям старажытнасці, на пачатковых стадыях іх развіцця. Гэта знайшло адлюстраванне і ў фальклорных творах — казках, легендах, байках. Ну і, вядома ж, у паэзіі. Як, напрыклад, у Юркі Буйнюка:

Я шукаў цябе<br>
У мелодыях салодкіх песень,<br>
Адзінокіх кропляў вераснёвых дажджоўбардаў...

* * *

Як вятры-коні нясуць удалеч<br>
Чаканне шчасця — цярпенне...

* * *

Душа-кватэра, адкрытая дзвярыма<br>
наіўнай веры...

Эпітэтаў і параўнанняў у паэзіі аўтара дужа шмат. Яны розныя, яны арыгінальныя і дзейсныя: каровы-бабулі, шакалад-кава, курыц-матуль...

Сама назва кнігі інтрыгуе, часам — абманвае, застаўляе падумаць. Падумаць пра чалавека, пра яго жыццё і творчасць. Лірычны герой зборніка зусім неабавязкова з’яўляецца яго ўласным alter ego — насупраць, ён піша і пра сябе, і пра розных людзей, ствараючы зборны вобраз паэта:

Ізноў я ў Бельску.<br>
У Міхайлаўскай царкве<br>
Затрымаўся час у малітве.<br>
Ад нашых продкаў<br>
Яснае святло свечак<br>
Супакоем напаўняе храм...

І далей... аўтар зноў вяртаецца да сябе, але гэта датычыць усіх нас: быццам мы вяртаемся да сябе, дамоў, да маленькай радзімы. Апошнімі радкамі паэт робіць верш проста класічным:

У Бельску амаль як дома —<br>
Паветра пахне роднай мовай.

Праўда, цяжка сказаць і адчуць насамрэч, як гэта паветра „пахне роднай мовай”, але тым, хто любіць паэзію, і нам, беларусам, гэта зразумела і будзем лічыць правільна.

Першы раздзел зборніка аўтар назваў „Каханне”. Каханне — вельмі гаючае слова ў лірычным свеце гэтага зборніка. Яго натхняльная сіла: даверлівасць і давяраць, шукаць і знаходзіць. Знаходзіць у „мелодыях салодкіх песень”, у „полымі паяднання дзвюх душ”, у „сне вясны кахання” і шмат дзе яшчэ. Але ў паэта не памірае вера ў паэтычных радках у высакароднасць пачуцця. Яна прыгожа і светла апета.

І ўсё ж самай запаветнай тэмай у „Непаўторнасці хвілін” — гэта тэма вёскі, роднай хаты і маці. Тэма, якая вымагае самай бездакорнай дакладнасці і прастаты слоў. І Юрку Буйнюку гэтая дакладнасць і прастата даюцца натуральна, нязмушана:

Вітаюся з вясковымі хатамі,<br>
З родным тварам маці-хаты,<br>
Шчаслівы, што бачу,<br>
Што чую<br>
Родныя пяшчотныя словы ў дзвярах...

А як шчыра паэт апявае хату, простую вясковую, родную хату. І гэтага апісання напачатку XXI стагоддзя паэт не цураецца, не саромеецца. Ён, апісваючы хату, проста акрылены жывымі чалавечымі пачуццямі. Хата для паэта — гэта ўсё, яна прыгадваецца ў многіх вершах аўтара:

І зноў я ў роднай хаце<br>
Пад бляскам Пачаеўскай іконы...

* * *

А тут гісторыя пішацца<br>
Кожным промнем успамінаў,<br>
Так блізкіх. Як душа хаты.

* * *

А мне добра ля таты і мамы —<br>
Вячэра, восень і наша старая хата.

* * *

Пад вокнамі хатаў плыло<br>
Мора салодка-сіняга бэзу.

* * *

На яблыні ля хаты старой<br>
Усё перацвіло-прамінула і г.д.

Ёсць у зборніку і яшчэ два вельмі простыя вершы, але яны заслугоўваюць найвялікшай ацэнкі. Наогул, мастацкая прастата некаторых вершаў паэта — гэта звыклы сінонім для азначэння паэта-рэаліста. Не ўсюды аўтар кнігі рэаліст, але пры апісанні ўсё той жа хаты, вяртання дахаты, бачыш, які па-майстэрску адшліфаваны верш, аздоблены ён параўнаннямі, вобразамі, перыфразамі. Паглядзіце, колькі іх у маленькім вершы „Дахаты”: „воз дваццаць першага стагоддзя”, „падарункі радасці сваёй”, „стол бацькоўскага давеpу”, „абрус матчынай спагады”, „хлеб дзедавай спадчыны”. Вось з такіх радкоў і ствараецца сапраўдны верш.

Некалі літоўскі паэт Эдуард Межэлайціс сказаў, што „чым больш эмацыянальны верш, тым мацней ён уражвае...”. Верш Юркі Буйнюка „Снежаньскі захад сонца” сапраўды ўражвае. Ён таксама пра хату, пра вёску, але аўтар праз маленькую радзіму і праз тое, што сэрцу вельмі блізкае, шчымліва і арыгінальна паказаў вобраз зімы. Я думаю, што кожны з гэтым пагодзіцца. Вось як гучыць гэты верш:

Стары дом ў вёсцы маёй —<br>
гадзіннік б’е трэцюю гадзіну,<br>
я чытаю кнігу дзяцінства,<br>
на двары белы-белы снег,<br>
серабрысты мароз.<br>
Хаты вясковых дахаў<br>
купаюцца ў снежаньскім захадзе сонца.<br>
Пад нагамі хрумсціць снег.<br>
Старая яблыня спіць зімовым сном.<br>
На даху хлява срэбныя ледзяшы,<br>
якія п’е шэры плот-сусед.<br>
У промнях зімовага сонца<br>
гарaць голыя дрэвы саду.<br>
А я, шчаслівы бясконца,<br>
нясу бярэмя дроў у хату.

Паэтычны зборнік „Непаўторнасць хвілін” Юркі Буйнюка атрымаўся. Галоўнае, каб і надалей на „абрусе матчынай спагады” ён упэўнена змог „знайсці сябе... у цяжкім часе”. Таму пажадаем яму новых паэтычных знаходак і адкрыццяў.

Сяргей ЧЫГРЫН



# Карцінкі
## з нашай глыбінкі

Ранейшая чыгуначная станцыя Рыгораўцы выглядае цяпер амаль так, як і менш важныя даўней прыпынкі. Гэта з пункту гледжання пасажыраў — няма ўжо тут ніякай пачакальні толькі голыя пероны. Дарэчы, так як і на іншых прыпынках былой Берасцейска-Граеўскай лініі. Першапачатковыя пачакальні пазмяталі адсюль сусветныя войны, а кволыя чарговыя змяла міграцыя насельніцтва. З пункту гледжання чыгуначнага руху Рыгораўцы крыху вылучаюцца — тут некалькі ветак, стрэлкі і двухпавярховы мураваны пункт кіравання імі; рух адбываецца, у прынцыпе, толькі па адным пуці. Значыць — гэта ўсё ж такі не звычайны прыпынак, толькі станцыя.

З сённяшняга пасажырскага пункту гледжання станцыя Рыгораўцы здаецца нявартай увагі. Але яна праславілася сто трыццаць гадоў таму. Пецярбургскі польскамоўны тыднёвік „Kraj" у верасні 1887 года паведамляў: „Przez długi szereg lat na jarmarkach i kolejach operowała szajka złodziei i szulerów, złożona z 5 osób: kupca grodzieńskiego Hersza Lwowa, jego brata Szai i syna Pereca oraz Lejby Goldberga z Warszawy i Oszera Nejmarka z Wilna. Byli to żydzi, którzy zamienili chałat na elegancki strój europejski, aby łatwiej korzystać z nieostrożności osób, złudzonych przyzwoitą ich powierzchownością. Kogo mogli, ogrywali, używając kart fałszywych, innym poprostu kradli pieniądze lub podróżne tłomoki. Pomimo tego, że znano ich w Grodnie, że konduktorzy i żandarmi mieli ich ciągle na oku, długo im się udawało broić bezkarnie, a z całego szeregu procesów zawsze umieli zręcznie się wyplątać. W lutym r. 1885 szajka, znalazłszy się w pociągu, idącym z Brześcia do Białegostoku, upatrzyła w sąsiednim wagonie młodego agenta handlowego Wolę i Hersz Lwow nawiązał z nim rozmowę i przyprowadził do swych towarzyszy; zaczęła się gra, do której przyłączył się Wola i wkrótce przegrał 100 rubli. Domyśliwszy się, że gra z szulerami, zawezwał naczelnika stacyi Grygorowcy, który poznawszy oszustów, oddał ich w ręce policyi bielskiej. Energiczny miejscowy sprawnik Kobylecki, którego chciano podkupić, a potem przestraszyć groźbą zemsty, przytrzymał wszystkich, natychmiast zarządził rewizyę i znalazł trzy talje kart znaczonych. Na tej podstawie rozpoczęto śledztwo, które dowiodło winy oskarżonych; z tych Hersz Lwow zmarł w więzieniu, pozostali zaś 15 b.m. zostali skazani: Szaja i Perec na osiedlenie w Syberyi, a ich towarzysze do rot aresztanckich". Калісь жыццё на чыгунцы было больш цікавае чым зараз...

З чыгуначнай станцыі выходжу на жвіроўку, што з Градалёў вядзе ў Рыгораўцы менавіта. У суботнюю раніцу рух там мізэрны. Недалёка ад дарогі вясковыя могілкі, дзе жыхары Рыгораўцаў хаваюць сваіх пакойнікаў. Над магіламі дастойна пахіляюцца мажныя сосны, як скульптурныя жалобніцы ў больш багатых некраполіях.

Неўзабаве паказваюцца і макаўкі малінніцкай царкоўкі, якая таксама на могілках. Паколькі прамежкавай мэтай майго падарожжа з'яўляюцца акурат Маліннікі, таму выбіраю туды дарогу напрасткі, цераз поле, бо па дарозе цераз Рыгораўцы трэба было б абысці немалы *круг*, а дакладней, улічыўшы кшталт дарожнага маршрута — *крук*. Прыняць рашэнне дапамагае мне надвор'е — нулявая тэмпература.

Вандроўка па замерзлым полі з'яўляецца неблагім трэкінгам, а калі маршрут праходзіць па ўзараным дзёране гэта нават свайго роду міні-альпінізм. Ад „вялікага" альпінізму ён розніцца тым, што непатрэбныя тут дарагія скалалазныя прыборы і магчымы ўпадак больш бяспечны. Аднак і тут трэба добра намахацца нагамі дзеля пераадольвання чарговых бездарожных выклікаў. Ды пры нагодзе захапляе не толькі фактура грунту, але таксама і краявіды, якія з дарогі не заўсёды заўважныя. Напрыклад загарады. Яны на пашах паміж Рыгораўцамі і Маліннікамі розныя: і з калючага дроту, і з маляўнічых менш або больш шэрых ды па-рознаму густых жэрдак...

Але ж чакала мяне і іншая нечаканасць — міраж, зрокавы падарунак ад прыроды. Убачыў я на абочыне пашы адзінокае гонкае дрэва, якое здалёк падалося мне вынікам нейкай дзівоснай прышчэпкі, дзе ніжняя частка кроны здалася быццам з шыпулькавых галін, а верхняя — з ліставых, быццам вянчаючая расліну кветка. Калі я падышоў бліжэй, міраж развеяўся і дрэва аказалася аднароднай гонкай сасной. Даволі дзіўнай у такім месцы, бо адзінокія сосны растуць даволі марудна, а гэтая ж стралой паімчалася ў неба. Калі я зноў ад яе аддаліўся на дзве соткі метраў, міраж вярнуўся і зноў паказалася мне вечназялёная кветка...

Чарговая нечаканасць здарылася мне ў пачатку Маліннік. На першым панадворку пажылы мужчына калоў дровы; зайшоў я задняй брамкай на ягоны панадворак распытаць пра патрэбную мне дарогу. Атрымаўшы інфармацыю, падаўся я ў паказаным напрамку, але ўжо да іншай форткі. З хаты выйшла жанчына і неяк надта ўважна мне прыглядалася. Мяне гэта асабліва



Фрагмент рыгораўскіх могілак

не здзівіла, бо ж на ейным панадворку з'явіўся зусім нечаканы чужак. Калі я наблізіўся да яе на размоўную адлегласць, спытала яна мяне, ці мы часам не знаёмыя. Не спадзяваўся я там сустрэць каго знаёмага, але зажартаваў, што знаёмыя. І тады толькі я звочыў, што з гэтай жанчынай час ад часу мінаемся ў маім пад'ездзе — яна аказалася сястрой маёй суседкі. Гара з гарою не зыдуцца, а людзі ўсяляк...

Зайшоў я ў малінніцкую краму, якая сціпленька прысела на абочыне вёскі. А ў краме, нашай вясковай краме, нашай тутэйшай вясковай краме — як у царкоўцы або касцёлку. Толькі крыху наадварот. У храме за кафедрай у нас мужчына, а ў краме — жанчына. А народ — наадварот...

Прысёлак Маліннік Бараноўцы аддзелены ад вёскі рэчкай Белай, такой жа белай, як і абнімаючы яе Бельск. „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага", той жа даўнасці, што і згаданае здарэнне на чыгунцы: „Baranowce, folwark, pow. bielski gub. grodzieńskiej, gm. Orla, 8 wiorst od Bielska, 427 dziesięcin należy do dóbr Orla, dawniej ks. Wittgensteina".

Ад Бараноўцаў у Тапаркі грунтавая дарога ў адносна маладым лесе. Зноў „Слоўнік": „Toporki, wieś, pow. bielski gub. grodzieńskiej, gm. Orla, o 17 wiorst od Bielska, u źródeł rzeki Białej, dopływu Orlanki (dopł. Narwi)".

За Тапаркамі, дзе адыходзіць дарога ў бок Грабаўца, былі калісь добра бачныя з тае дарогі могілкі. А цяпер я крыху разгубіўся, бо могілак не было відаць — там, дзе я спадзяваўся іх убачыць, расла шпаркая бярэзіна. Калі я падаўся каля трыццаці метраў дарожкай у тую бярэзіну, толькі тады паказалася тапаркоўская некраполія. Месцы даўніх пахаванняў нашых далёкіх продкаў час зраўняў з зямелькай, яны зніклі з краявіду, замяніўшы ўсё сваё ранейшае ў прах. І вось гэтыя тапаркоўскія могілкі здаліся мне быць у пачатковай стадыі немінучага шэсця ў вечную памяць за сваімі праханоснымі папярэднікамі...

Каля першай хаты Грабаўца прывіталі мяне сабакі: адзін на прывязі, а два на свабодзе. І тыя два вельмі настойліва хацелі пазнаёміцца са мною, як найбліжэй, непасрэдна, кранальна. Прыйшлося браць у рукі абарончыя прыборы. Але сабачкі праявілі сваю руплівасць толькі насупраць свайго панадворка — калі я мінуў яго, жывінкі з тамашняй глыбінкі адразу страцілі да мяне цікавасць. Быццам якія надта легалістычныя службоўцы, працуючыя толькі ў адведзеных ім тэрытарыяльных межах...

У цэнтры Грабаўца стаіць інфармацыйны стэнд пра вёску. Інфармуе ён, што даўняя назва Грабаўца — Абыходнік, выводзіцца ад ахінаючага мясцовасць згібу ракі або дарогі. Але, магчыма, у гэтай назвы іншая этымалогія; слоўнік Даля: „Обиходник, заботливый хозяин"... На стэндзе мясцовасць апісана на двух мовах: на польскай і англійскай. Версія для чужаземцаў паўтарае польскі змест, а да таго ж дадае бонус, якога ў польскім тэксце няма. „Бонус" інфармуе, што паколькі Грабавец з'яўляецца найлюднейшай вёскай у Дубіцкай гміне, яе, вёску, жартаўліва называюць Кітаем, а жыхароў — кітайцамі. Шкада, што няма больш моўных версій аб Грабаўцы, бо ж напэўна знайшліся б і для іх нейкія вясёлыя цікавінкі аб тутэйшых.




З Грабаўца думаў я падацца ў Дубічы-Царкоўныя, мяркуючы, што і там стаіць краязнаўчы стэнд з рознымі моўнымі версіямі і падобнымі як у Грабаўцы бонусамі. Аднак гадзіннік, а дакладней пара праезду аўтобуса ў Беласток, прымусіла мяне падацца на дубіцкі аўтобусны прыпынак адноўленаю гайнаўска-кляшчэлеўскай шашою. Можа яна ў агульнасці падацца манатоннай, па якой адно час ад часу імчаць машыны. І так пэўна было б, калі б не веласіпедная дарожка, што пралягае паралельна з насыпам для аўтамабіляў. І калі б не рака Арлянка нясучая свае не надта аб'ёмістыя мясцовыя воды ў напрамку далёкага мора і яе маставое скрыжаванне з мадэрнай асфальтоўкай. Вось аўтамабільны насып пралятае над Арлянкай прамалінейна, затое веласіпедны пралёт там рэзкім гарызантальным збоем. Не ведаю, дзеля чаго дарожныя будаўнікі так рашуча скрывілі веласіпедную дарожку — магчыма, такі ў нас стандарт. Толькі тая крывуля зусім не забяспечаная хаця б нейкімі засцерагальнымі знакамі і дастатковай агароджай. Людзі, у іх ліку і задумнікі новых камунікацый, якія ганарліва заселі ў самаходы, перасталі думаць пра карыстальнікаў іншых сродкаў перамяшчэння... Калі каля Дубіч, перад Арлянкай, веласіпедыст набярэ разгону і крыху заваронiцца, і не заўважыць рэзкай змены напрамку сваёй дарожкі, можа на поўнай сваёй скорасці грымнуцца ў рупліва выкладзены камянямі бераг. Як альпініст, калі абарвецца з грані...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Юбілей паўвекавой працы ў Царкве


Фота: дыякан Вячаслаў Ларэк

**Андрэй Беразавец** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Лапухоўка, распаложанай пад Белавежскай пушчай. Быў ён адным з пачынальнікаў беларускага літаратурнага руху ў пасляваеннай Польшчы. Разам з братам Янкам прысутнічаў у першым арганізацыйным з'ездзе Беларускага літаратурнага аб'яднання, які адбыўся 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку. Дэбютаваў год пазней у „Ніве" вершам „Жаніцьба". Пісаў вершы і сцэнічныя творы, якія друкаваў у „Ніве" і беларускіх календарах, прымаў удзел у літаратурных семінарах і аўтарскіх сустрэчах. Тры гады працаваў у Гайнаўскім аддзеле Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Ладзіў сходы, фэсты, арганізаваў канцэрты „Лявоніхі".

Андрэй Беразавец вучыўся ў Праваслаўнай семінарыі і Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Вучні семінарыі і студэнты ХТА прымалі дзейсны ўдзел у працы Варшаўскага аддзела БГКТ. Каля дваццаці пяці маладых мужчын з добрымі галасамі спявалі ў хоры аддзела.

Пасвяціў Андрэя Беразаўца ў святары Праваслаўнай царквы мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сцяпан 28 лютага 1966 года.

Служыў ён у прыходах Бранева, Гурова-Ілавэцкае, Паўночны Востраў, Заблудаў, а ў Беластоку — на Выгодзе, у Старасельцах. Год быў у Нью-Йорку. Ад 1990 года служыць у царкве Святога Духа на Антонюку.

Айцец Андрэй Беразавец з'яўляецца тым святаром, якога не загасла паэтычная ліра. Піша ён на трох мовах: беларускай, польскай і рускай. Выйшла дагэтуль сем яго паэтычных кніжак.

У паўстагоддзе службы ў Праваслаўнай царкве Андрэя Беразаўца 28 лютага 2016 года ў царкве Святога Духа ў Беластоку адбылася святая літургія. Удзел у набажэнстве прыняў мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, архіепіскап беластоцкі і гданьскі Іакаў і епіскап супрасльскі Грыгорый, з якімі служыла яшчэ 16 духоўных асоб. Царква была запоўнена як ніколі вернікамі. Вельмі прыгожа спяваў хор пад дырыжорствам Ірынея Лаўрашука.

За паўвекавую службу святару Андрэю падзякаваў мітрапаліт Сава і ўручыў яму ўзнагароду — крыж з аздобамі, а архіепіскап Іакаў уручыў ордэн нябесных апекуноў епархіі свсв. Кірылы і Мяфодзія. Віншавальны дыплом з узнагародай прыслаў таксама прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі. Гэты дыплом зачытаў архіепіскап Іакаў.

Пасля набажэнства ў вялікай чарзе выстраіліся вернікі, каб павіншаваць Юбіляра. Усе неслі кветкі і сувеніры, а таксама словы падзякі за паўвекавую службу ў Царкве.

Вельмі сардэчную падзяку за службу ў прыходзе Святога Духа пераказаў настаяцель царквы Георгій Барэчка і ад усяго духавенства падарыў мітру — самую высокую ўзнагароду, якую прызначае заслужаным духоўным Сінод царквы ў нашай краіне.

Пасля службы ў царкве пачалася неафіцыйная частка, у ходзе якой падсумавалі пяцідзесяцігадовую царкоўную працу Юбіляра: мітрапаліт Сава, архіепіскап Іакаў, дырэктар Радыё „Orthodoxia" а. Ян Койла, а. Анатоль Кірык і многія іншыя.

**Віктар ШВЕД**

## Дарагому Айцу Андрэю Беразаўцу

*у паўстагоддзе службы Богу*

Мой Дружа, Дарагі Андрэй,
Табе пашаны вельмі многа.
Святкуем мы Твой Юбілей —
Паўвеку вернай службы Богу.

А багаслужбы тут з Табой
У царкве Святога Духа,
З чуллівым сэрцам і душой
Вернікі ідуць паслухаць.

Ты слова Божага мастак
Бо Ты паэтам без сумнення.
І адукуеш плённа так
Маладыя пакаленні.

І надалей Ты навучай
Вернікаў абавязкова,
І як дагэтуль усхваляй
Бога паэтычным словам!

Мы з ласкі Божае жывем
Як доўга — гэтае сакрэтам.
А сёння мы Табе спяем:
„Многае, многае лета!"

Беласток, 28 лютага 2016 года
**Віктар ШВЕД**

БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ

Антаніна Рыбалка

>> Галоўная

Рада вітаць вас на старонцы маіх вершаў. Я пішу пра тое, што бачу вакол сябе, што нагадваюць мне мае ўспаміны, што кранае маё сэрца, што прыцягвае мой погляд. Пішу на беларускай і рускай мовах, але я сама беларуска, я пішу пра Беларусь і беларусаў, таму называю свае вершы беларускімі. Буду рада, калі вам спадабаецца чытаць мае творы.

Мае імя — Антаніна Адамаўна Рыбалка. Жыву я ў вёсцы Муляраўка, што недалёка ад Петрыкава, у Беларусі. Больш падрабязна пра мяне можна прачытаць на старонцы аўтара.



# http://antoni.na.by

Вершы простых людзей, якія не з'яўляюцца прафесійнымі літаратарамі, маюць па меншай меры два бакі — яны могуць быць і смешнымі, і вельмі кранальнымі адначасова. Ну а паколькі кожнаму паэту патрабуецца ацэнка іншых людзей, то такія вершы час ад часу трапляюць у Сусветнае павуцінне альбо праз размяшчэнне на разнастайных паэтычных сайтах, альбо на ўласных вэб-старонках. Адным з прыкладаў такога сайта з'яўляецца віртуальнае прадстаўніцтва паэткі-аматаркі з вёскі Муляраўка, што каля горада Петрыкава на Гомельшчыне, Антаніны Рыбалкі.

Месціцца даны сайт, які называецца „Беларускія вершы", па адрасе **http://antoni.na.by**, мае вельмі простую будову і на ім практычна адсутнічаюць якія-колькве аздабленні. Адзіныя выявы — два здымкі паэткі, што размешчаны ў дзвюх з трох рубрык сайта.

„Рада вітаць вас на старонцы маіх вершаў. Я пішу пра тое, што бачу вакол сябе, што нагадваюць мне мае ўспаміны, што кранае маё сэрца, што прыцягвае мой погляд. Пішу на беларускай і рускай мовах, але я сама беларуска, я пішу пра Беларусь і беларусаў, таму называю свае вершы беларускімі. Буду рада, калі вам спадабаецца чытаць мае творы", — піша паэтка на галоўнай старонцы ўласнага сайта.

Адметна, што словы „Беларускія вершы" напісаны ў каляровай гаме цяперашняга дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, а твор „Пераправа", які падчас падрыхтоўкі данага артыкула быў размешчаны на галоўнай старонцы, адлюстроўвае тэматыку апошняй вайны. Гэта своеасаблівы паказнік светапогляду і зацікаўленняў Антаніны Рыбалкі, які цалкам праяўляюцца праз яе творы, размешчаныя на старонцы „Вершы".

Нягледзячы на тое, што паэтка піша па-беларуску і па-руску, мова яе сайта выключна беларуская, праўда, дзе-нідзе расповед засмечвае трасянка. „Сябе лічу шчаслівай жанчынай!" — піша Рыбалка ў рубрыцы „Старонка аўтара". Там жа месціцца аўтабіяграфічны тэкст пра яе жыццё, працу і творчасць.

„Тэматыка маіх вершаў шматпланавая, разнастайная. Яны пішуцца тады, калі душа пажадае. Пра матуліну радзіму, родную вёску, апошняга ветэрана... Друкаваліся ў газетах «Астравецкая праўда», «Сябар пенсіянера». Занятак паэзіяй стаў для мяне неабходнасцю. Тэмы для творчасці бяру з жыцця. Сувязь з людзьмі напаўняе маю душу радасцю, выклікае большае жаданне ўбачанае і пачутае адлюстроўваць у вершах", — узрадавана піша жанчына. Паводле паэткі, тэксты твораў станавіліся словамі песень ансамбля „Чараўніцы".

Радкі сваіх вершаў яна параўноўвае з пацеркамі, на якія нанізаны словы. „Першы верш склаўся спантанна — трэба было дачцы выканаць заданне. Тая ў слёзы — «не магу!» Ну, хто дапаможа дзіцяці, як не мама. Атрымалася нядрэнна", — распавядае Антаніна Рыбалка.

Ну а наколькі нядрэнна выходзяць вершы паэткі кожны можа даведацца, зазірнуўшы зноў на аднайменную старонку. Праўда, давесці сваю ацэнку твораў да аўтара даволі складана, бо на сайце размешчаны толькі нумар яе стацыянарнага тэлефона. Магчымасць выключна такога кантакту Антаніна Рыбалка тлумачыць невыкарыстаннем ёю інтэрнэту. Адказу на адрасу ўзніклае пытанне, чым жа тады ёсць стварэнне сайта, у „Беларускіх вершах" знайсці не ўдалося.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

### Аўтар беларускага нацыянальнага сцяга

## 125 гадоў з дня нараджэння

# Клаўдзія Дуж-Душэўскага



Бел-чырвона-белы сцяг выпакутаваны стагоддзямі змагання беларусаў і іх продкаў за незалежнасць і вольнасць сваёй зямлі. Аднак кожная гістарычная сімволіка мае і сваіх аўтараў, якія ў пэўны час афармляюць традыцыю ў канкрэтныя вывы. У нашай гісторыі такую ролю выканаў беларускі архітэктар, выдавец, журналіст і грамадскі дзеяч з рэдкім імем і незвычайным прозвішчам — Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Менавіта ён лічыцца стваральнікам сцяга БНР, сцяга, які ўжо амаль сто гадоў беларусы лічаць сваім нацыянальным.

Клаўдзій Дуж-Душэўскі нарадзіўся 27 сакавіка 1891 г. (паводле іншых звестак 26 красавіка) у Глыбокім. Скончыў Віленскую рэальную вучэльню. Тады ж захапіўся самадзейнасцю. Іграў ролю Крыніцкага ў пастаноўцы купалаўскай „Паўлінкі". У 1912-1917 гг. вучыўся ў Пецярбургскім горным інстытуце. Браў удзел у выданні часопіса „Раніца". Распрацоўваў тэму вывучэння старажытных гістарычных помнікаў і аховы даўніны. Паводле ўласнага сцвярджэння прыблізна ў гэты час і стварыў эскіз беларускага нацыянальнага сцяга. У 1917 г. стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай Грамады (БСГ), у чэрвені-кастрычніку таго ж года — сябра яе ЦК і прэзідыума. Удзельнік З'езду беларускіх нацыянальных арганізацый (сакавік 1917 г., Менск), Усерасейскай дэмакратычнай нарады (верасень 1917 г., Петраград) і іншых. У 1918 г. працаваў загадчыкам бежанскага аддзела Беларускага нацыянальнага камітэта. Пасля распаду БСГ летам 1918 г. быў у Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З красавіка 1919 г. у Вільні, сябра Белнацкама, старшыня Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны (травень-ліпень 1919 г.). У гэты час узначальваў камітэт Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускай вайсковай камісіі. Актыўна выступаў за незалежнасць Беларусі. Увосень 1919 г. — дыпламатычны прадстаўнік урада БНР у дзяржавах Балтыі, дзяржаўны сакратар ва ўрадзе Вацлава Ластоўскага. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі на беларускіх настаўніцкіх курсах.

У пачатку 1921 г. году Клаўдзій Дуж-Душэўскі арыштаваны польскімі ўладамі. Вызвалены 7 лютага 1921 г. Пасля гэтага з'ехаў у Коўна. У 1920-1930-я гады працаваў у міністэрствах беларускіх спраў, замежных спраў, сувязі Літвы, адзін з кіраўнікоў Беларускага цэнтра ў Літве, Літоўскага-Беларускага таварыства. У 1927 г. скончыў Літоўскі ўніверсітэт у Коўне. Пасля далучэння Літвы да СССР Дуж-Душэўскі трапіў у савецкую турму. У час нямецкай акупацыі дапамагаў габрэям, за што быў арыштаваны гітлераўцамі і кінуты ў нацысцкі канцлагер. Быў у канцлагеры каля мястэчка Правянішкі. Адтуль здолеў выйсці жывым. У 1944-1946 гг. працаваў дацэнтам Ковенскага ўніверсітэта. У 1946 г. чарговы раз арыштаваны саветамі. У лютым 1952 г. зноў арыштаваны як „актыўны беларускі нацыяналіст", засуджаны да 25 гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры. Вызвалены ў красавіку 1955 г. Рэшту жыцця працаваў у інстытуце „Літгбудпраект". Дуж-Душэўскі — аўтар-архітэктар дзясяткаў будынкаў у Коўне, Панявежы, Клайпедзе, Шаўлях. Быў рэдактарам часопіса „Беларускі асяродак".

Памёр Клаўдзій Дуж-Душэўскі 25 лютага 1959 г. у Вільні (паводле іншых звестак у Коўне). Пахаваны ў Коўне.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Самаўрадаўцы з Васількава ў Нараўчанскай гміне

20 лютага гэтага года група самаўрадаўцаў з Васількаўскай гміны Беластоцкага павета прыехала з візітам у Нараўчанскую гміну Гайнаўскага павета. Ім было цікава, як тут працуюць Гмінны асяродак культуры і вясковыя святліцы, што яны робяць у галіне культуры, спорту і адпачынку, а таксама ў галіне захавання народных звычаяў і традыцый ды як тут развіваецца агратурызм.

Госці найдаўжэй затрымаліся ў Агратурыстычнай гаспадарцы «Бора-Здруй» Барыса і Людмілы Казлоўскіх у Новым Ляўкове. Тут яны сустрэліся, між іншым, з войтам Нараўчанскай гміны Мікалаем Павільчам, дырэктаркай Гміннага асяродка культуры Галенай Рэент, раднымі Нараўчанскай гміны, старшынямі няўрадавых арганізацый (дзейнічаюць тут Таварыства сяброў Нараўчанскай гміны, Таварыства «Ятрышнік» і Згуртаванне агратурыстычных кватэр). Васількаўскіх самаўрадаўцаў усё цікавіла, усё хацелі пабачыць, уважліва прыслухоўваліся да расказаў войта і дырэктаркі ГАК.

Цікавым размоўцам для іх быў Барыс Казлоўскі. Ён вадзіў самаўрадаўцаў на экскурсію па сваёй агратурыстычнай гаспадарцы, завёў, між іншым, у свой прыватны скансэн з сельскагаспадарчымі прыладамі ды ў музей з фотаздымкамі ўсіх цэркваў на тэрыторыі Польшчы і іконамі, у «Лясную галерэю» і паравую лазню.

У памяшканнях спадарства Казлоўскіх жанчыны з Лешукоў, Заблотчыны і з Новага Ляўкова спяклі аржаны хлеб ды булкі, а таксама бульбяную бабку. Арганізавалі і іншыя заняткі, у тым ліку што і як можна зляпіць з гліны ды вучылі рысаваць на драўлянай дошцы з выкарыстаннем піраграфіі.

Пасля поўдня васількаўскія госці паехалі яшчэ ў Нараўку. Там наведалі Галерэю імя Тамары Саланевіч (паглядзелі вялікі макет колішняга царскага палаца ў Белавежы, які зрабіў Раман Маліноўскі з Нараўкі, а таксама выстаўку карцін і разьбы замежных і айчынных мастакоў) ды новую святліцу побач ГАК.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА





## Вернісаж Данеля Грамацкага

4 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адкрылася выстава прац гайнаўскага мастака-пейзажыста Данеля Грамацкага. Удзельнікам вернісажу мастак прадставіў дваццаць шэсць алейных карцін, у асноўным краявідаў.

Мастак нарадзіўся і пражывае ў Гайнаўцы. Тут мае атэлье і займаецца жывапісам, графікай, іканапісам, кансерватарскай справай і пазалотным майстэрствам. З'яўляецца ён выпускніком Гуманістычна-мастацкага аддзялення Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры і Люблінскай школы мастацтва і праектавання па тэхніцы жывапісу і праектавання. Удзельнічаў у айчынных ды міжнародных мастацкіх пленэрах. Свае працы дэманстраваў у Польшчы, Беларусі і на Латвіі.

Выстаўка была даступнай зацікаўленым у глядзельнай зале ГАК і ў кафейцы два тыдні і карысталася памяркоўным зацікаўленнем.

(ус)

## Чыжоўская дэмаграфія

У Чыжоўскай гміне 21 мясцовасць, у тым ліку васямнаццаць салэцкіх. Зараз яна налічвае 2 195 жыхароў (дваццаць гадоў таму было 3 500 і ў 2000 годзе 3 040 чалавек). У ёй ёсць шэсць вялікіх вёсак: Кленікі (404 жыхары), Чыжы (351), Курашава (286), Збуч (169), Мора (157) і Койлы (146). Больш 50 жыхароў налічваюць Асоўка (88), Падрэчаны (81), Шастакова (75), Лянева (73), Ракавічы (67) і Гукавічы (62).

У Чыжоўскай гміне невялікія вёскі гэта: Камень — у ёй 48 жыхароў, Ляды — 44, Лушчы — 36, Ляшчыны — 35, Сапава — 31 і Максімоўшчына — 18. Найменшыя тут тры вёсачкі Вежанка, Вулька і Падвежанка. Кожная з іх мае ўсяго па восем жыхароў.

Найбольшая вёска Кленікі падзелена на два салэцтвы. Да салэцтва Вулька належаць Вежанка, Падвежанка і Максімоўшчына ды ў салэцтве Гукавічы знаходзіцца таксама вёска Ляшчыны. У гміне налічваецца каля пяцісот інвалідаў. Трэцяя частка ўсіх жыхароў гміны — пажылыя людзі.

(яц)

## Як памаляваць яйкі



18 сакавіка гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны народная ўмельшчыца Марыя Рэент вучыла маляванню велікодных яек, а Крыстына Паскробка паказвала як упрыгожыць вербачкі для асвяшчэння іх у Вербную нядзелю. У Ляўкове гэтая традыцыя не згіне.

Маляванню яек вучыліся дзеці, моладзь ды старэйшыя жыхары Новага Ляўкова і Старога Ляўкова. На працягу трох гадзін удзельнікі велікодных майстар-класаў памалявалі многа яек у самыя розныя ўзоры ды колеры. Мерапрыемства арганізавала кіраўнічка старалялўкоўскай святліцы Крыстына Паскробка.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## 03.04 — 09.04

**(22.03. — 20.04.)** Хутка надгоніш «хвасты» на працы. Неба ўжо даўжэйшы час шле табе перашкоды, але ўрэшце скажаш: «Хопіць!». Не будзеш дапасоўвацца да акалічнасцей, пачнеш сам іх ствараць. Паслухай голасу сэрца. 6-8.04. урэшце закапай ваенны тапор. На працы шукай новых вырашэнняў; калегі стануць за табой мурам. Ад 6.04. многа нагод для добрага заробку. Пасля 7.04. можаш знайсці добрую працу — гэта твой вялікі шанц! Вельмі дбай аб сябе ўвесь месяц — могуць прытрапіцца аварыі і кантузіі.

**(21.04. — 21.05.)** Фантастычна пойдуць увесь месяц твае прафесійныя справы (асаблівымі абраннікамі зорак будуць народжаныя ў другой дэкадзе знаку). Стаў на інтуіцыю. Ва ўсім будзеш мець шчасце. 2-5.04. можа табе не хапіць самаўпэўненасці — не адкінь карыснай прапановы. 8.04. чакае цябе фантастычная сустрэча.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш вырашаць важныя для цябе справы. Разлічвай на сваю інтуіцыю. 8.04. нялёгкія адносіны з партнёрам. Будзе табе здавацца, што адначасова націскаеш на педаль газу і тармазы — будзь цярплівым. У пачуццях куй жалеза пакуль гарачае. Будзь адкрыты на іншы пункт гледжання. На недахоп грошай не будзеш скардзіцца, але на працы чакае цябе шмат абавязкаў. Добра зробіць табе фізічны высілак.

**(23.06. — 23.07.)** Грошы, сяброўства, удачы ў кампаніі — толькі працягнуць руку. Вясна належыць табе! Ідзі ўперад! Маеш шанцы заззяць. Можаш сустрэць свой ідэал! Людзі будуць проста ліпнуць да цябе. Дапамажы сваяку парадай, у падзяцы атрымаеш штосьці важнае, што дазволіць табе разгарнуць крылы, або сямейную памятку. 6-8.04. удасца табе вырашыць складаныя праблемы. У першай палове красавіка сядзь на дыету.

**(24.07. — 23.08.)** 2-7.04. наладзіш вельмі карысныя знаёмствы. У красавіку атрымаеш мноства знакаў, якія памогуць табе даць адказ на нялёгкія пытанні. Аж да 20.04. спрыяе табе трыгон Сонца — прынясе ён папулярнасць, прыхільнасць іншых (таксама супрацоўнікаў), энергію і запал да працы. Пасля 6.04. дамаўляйся на сустрэчы. Ад 6.04. аж да 29.04. пакажаш усе свае козыры! Спадзявайся поспехаў.

**(24.08. — 23.09.)** Павер у свае магчымасці, не бойся неспадзяванак. У гэты раз пойдуць табе яны к дабру і духоўна ўзбагацяць. Даўнія непаладкі перастануць табе дакучаць. У пачуццях дзейнічай тактоўна і асцярожна. На працы добра плануй.

**(24.09. — 23.10.)** У красавіку ты абраннік лёсу! Здабудзеш упэўненасць, чаго хочаш і куды кіруешся. Але не падмятай старых праблем пад дыван, адважна стань ім твар у твар. Хопіць зрабіць першы крок, памогуць таксама сябры. Венера спрыяе любоўным заваёвам. Ідзі туды, дзе смех і шум. Пасля 6.04. можаш файна зааранжаваць сваё жыллё. На працы прыкладзіся да работы. А можаш разглянуцца за іншай — да 8.04. можаш мець весткі аб добрым вольным месцы.

**(24.10. — 22.11.)** Усё ў красавіку будзе табе ладзіцца як па заказе. А перашкоды, якія хутка пераможаш, будуць толькі малой цікавінкай. Але пільнуйся 5-9.04. — каб твае амбіцыі не пайшлі не ў той бок. Будзеш спакайнейшы, менш прыдзірлівы; будзь асабліва спакойным 6.04., бо твае праціўнікі схочуць узяць цябе на прыцэл, не ідзі на адкрытую канфрантацыю з імі. Не адмаўляйся ад запрашэнняў. Твае прапановы, хоць здадуцца несур'ёзнымі, будуць прыняты. Дбай аб свой мачавы пухір.

**(23.11. — 22.12.)** 3-7.04. пераможаш канкурэнцыю і папраўіш свой рэйтынг у шэфа. Вырысоўваюцца перад табой новыя перспектывы. Свет прыгажэйшы, людзі прыязныя. Змабілізуешся да цяжкай працы. Грошы будуць любіць цябе ў красавіку так, што будзеш знаходзіць іх нават на вуліцы. Зайграй у латарэю, пашукай дадатковага заробку.

**(23.12. — 20.01.)** Здаецца табе, што ўсе сілы сталі супраць цябе? Супакойся. Хаця на змаганне можа не хапіць табе сілы. Але працуй, бо могуць прыйсці цяпер цікавыя прафесійныя заданні. Самотны Казярог: адкрый вочы і чакай, ты цяпер улюбёнец Венеры! Дома не будзь эгаістам. Вельмі пільнуй свае косці і суставы. 2-6.04. будзеш кемлівы, усё ўдасца. 2-9.04. — не пазычай грошай, бо табе іх не вернуць.

**(21.01. — 19.02.)** Не зачыняйся ў сваёй пустэльні, не адмаўляйся ад людзей — яны могуць табе шмат запрапанаваць. Неба аж да 19.04. гарантуе табе знакаміты настрой. У пачуццях дазволь дзейнічаць наканаванню. Не вер абяцанням у сувязі з працай; могуць цябе абмануць. Таксама не вер ва ўсім супрацоўнікам. Пры лішку энергіі займіся спортам.

**(20.02. — 21.03.)** Паправяцца твае адносіны з блізкімі. Трэніруй гаварэнне «не!». 5.04. не зрабі памылкі, якая можа мець сур'ёзныя паслядоўнасці. На працы вырасцеш на лідара, але не разлічвай на ўзнагароды ад шэфа. З наступнага тыдня грошы будуць лезці самі ў твой кашалёк! Але правер узровень жалеза ў крыві.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

1. жыхар Варшавы, 2. рака са Швейцарыі ў Міжземнае мора, 3. сусед чылійца, 4. самаходны апарат для глыбакаводных даследаванняў, 5. дзяржаўная або грамадская сістэма, 6. чатырнаццатая літара грэчаскага алфавіта, 7. аўстрыйскі ланд з Інсбрукам, 8. друг, 9. „вясёлка" павы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | | | | | | 3 |
| | | | | | | | | | | | | |
| | 4 | | 5 | | | | 6 | | | 7 | | |
| | | 8 | | | | | 9 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Абак, Азія, Вена, вушы, Кіеў, пыл, Троя, урок.

Рашэнне: **У пекла вароты шырокія, а ў неба вузкія**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анатолю Мірану** з Саколкі.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (37)

У Марочным нечакана для мяне адкрыліся чарговыя дзверы. Якраз выпалі выхадныя і ўсе дзяржаўныя ўстановы навокал былі шчыльна зачынены. Аднак бацюшка пазваніў дырэктарцы школы і адразу дамовіўся на сустрэчу. Мы схадзілі ў школу паглядзець новы краязнаўчы музей, несумненны гонар сяла і ўсяго раёна.

Дырэктар Марыя Мікалаеўна Тышкавец прывітала нас з кошыкам дзьмухаўцоў у руках. Якраз збірала духмяныя кветкі, каб згатаваць з іх модны ў апошні сезон мёд. На агромністым школьным пляцы — два будынкі. Адзінаццацігодка працуе ў новым двухпавярховым бетонным будынку, ззаду віднее драўляны будынак колішняй школы. Зараз у ім музычная школа.

— Вашы дзеці маюць магчымасць вывучаць ігру на піяніна? — пытаю.

— Ну, так, — сцвярджае спадарыня Марыя, — ды і на іншых інструментах таксама...

Школе пашанцавала на арыгінальнае мастацкае афармленне. Калі мы аглядалі калідоры і дыдактычныя залы, мяне ўразілі насценныя малюнкі. На іх «шумелі» векапомныя дубровы, стары бор, цёмны алёс. Сувязь чалавека і дрэва гэта найпершы матыў у творчасці мясцовых народных паэтаў. Для палешука лес гэта больш чым лес. Школьныя «лясныя» памяшканні служаць дзеля ўзвышэння духу. У іх адбываюцца ўрачыстыя лінейкі і мастацкія мерапрыемствы. Як не цікава, лясную галерэю намаляваў народны мастак, у прыватнасці школьны сторож.

Зараз у марочнянскай адзінаццацігодцы каля 150 вучняў. Пытаю ці гэта пастаянны лік школьнікаў на працягу апошніх гадоў. Аказваецца — не, дваццаць гадоў таму школьнікаў было ўдвая больш. Дэмаграфічныя тэндэнцыі, хоць не надта прыкметныя простым вокам, паказваюць ціхае зніканне палескай цывілізацыі.

* * *

— Ці палескія гаворкі і этнаграфічная спецыфіка маюць шанц захавацца ў сучасным свеце? — пытаю ў бацюшкі Паўло Дубянца.

— Пакуль будзе сяло, датуль гэта ўсё будзе, — чую ў адказ.

Школьны музей у Марочным, як адзначае дырэктар Марыя Тышкавец, гэта задума і вялікая навуковая дапамога бацюшкі. Свяшчэннік шмат гадоў супрацоўнічаў з раённым музеем у Зарэчным. Прафесійны досвед паслужыў для якаснай падборкі і апрацоўкі экспанатаў. Уражвае яго гістарычная перспектыва. Пачатак мясцовай гісторыі сягае часоў мезаліту, пра што сведчаць крэмянёвыя прылады працы першабытнага чалавека. Далей бачым гісторыю мясцовых дваранскіх родаў Родзевічаў, Тарлецкіх, Пашкевічаў. Два першыя роды адыгрывалі гаспадарчую і культурную ролю да паўстання 1863 года. Генрык Родзевіч, у прыватнасці бацька пісьменніцы Марыі Родзевіч, быў рэпрэсаваны і сасланы ў Сібір. Яго маёнтак набыў Пашкевіч, які ў другой палове XIX ст. арганізаваў у Марочным прамысловасць. У маёнтку працавалі цагельня, паравы млын, фабрыка якасных панэляў.

Стэнды, прысвечаныя дваранству, маюць рэгіянальны характар. Гэта несумненна вялікая навіна на Палессі.

— Нашы людзі, калі гаварыць пра шырокае грамадства, зусім не кемяць, што адбывалася да рэвалюцыі. Дзевятнаццатае стагоддзе і памешчыкі — для іх поўная экзотыка.Таксама паўстанні 1830 і 1863 гадоў не існуюць у свядомасці мясцовых людзей, бо гэта «польская» гісторыя. Аднак, калі глянуць на ўсё праз дакументы, тыя ж памешчыкі былі асновай гаспадарчага і цывілізацыйнага развіцця. Напрыклад, да рэвалюцыі



Дырэктар Марыя Мікалаеўна Тышкавец





нашы людзі ўжо будавалі хаты на дзве палавіны, а ў міжваенны час гэта было нормай. У даваенны час працавала польская *паўшэхная* школа. На чарговых стэндах бачым падручнікі па вывучэнні польскай мовы, прыроды і геаграфіі. Ёсць таксама фігурка, уцалелая са спаленага ў час айчыннай вайны касцёла. Касцёл быў высвечаны ў 1933 годзе і служыў прыезджым чыноўнікам і настаўнікам. У міжваенны час у Марочным было восем польскіх сем'яў. На адной фатаграфіі бачым марочнянскіх школьнікаў на экскурсіі ў Варшаве.

— Мая прабабка, — дадае спадарыня Тышкавец, — таксама была з палякаў...

Сёння ў Марочным ніхто не ўмее прачытаць са зразуменнем хаця б аднаго сказа на польскай мове, а сама Польшча явіцца далёкай і экзатычнай краінай. Маючы ў галаве сацыялагічныя публікацыі Юзэфа Абрэмбскага, я была ўдвая шакіравана. У даваенны час польскі вучоны адзначыў, што палеская моладзь у вялікай ступені ўжо адчувае сябе палякамі. Асабліва тыя, якія пабывалі ў войску або працавалі ў Польшчы...

Як вокамгненна ўсё гэта развеялася, прапала!

Пад уплывам палеска-ўкраінскай стыхіі, якая моцна закаранілася ў кожнай галіне жыцця мясцовых людзей, стэнды «польскага часу» зараз здаваліся сном.

Праўда, *польскі* перыяд не зацямніў кірылічнай пісьменнасці. Сярод шкляных стэндаў — найбольш царкоўнай літаратуры. Тут прэзентаваліся першыя тлумачэнні на ўкраінскую мову.

Музейныя экспазіцыі выдатна папаўняюць вышыванкі, рыбацкія снасці, посуд штодзённага карыстання.

Мне найбольш запамятаўся асобны куточак, адведзены Івану Крэпкаму. У музеі захоўваецца яго столак. Гэты дваранін па паходжанні праславіўся як народны асветнік, які прыносіў у мужыцкія хаты кніжкі, а пасля перапытваў з прачытанага. Ён таксама быў карэспандэнтам «Палескай праўды», заўзятым шахматыстам і літаратарам. Крэпкі пакінуў у спадчыну дзённік, у якім з дакладнасцю бухгалтара ідзе крок у крок з прыгожай лірыкай. Сярод запісак знаходзім заметкі тыпу *Прагулялся по селе, сустрэў Івана з Максімам, выпілі бутылочку віна, за іх кошт...*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960